PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (2253) Год XLIV Беласток 18 ліпеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Беларуская незалежнасць

Аляксандр Максімюк

„Мы аб'ектыўна зацікаўлены ў развіцці раўнапраўнага ды ўзаемакарыснага супрацоўніцтва з усімі краінамі свету. Але пры гэтым мы ніколі не дазволім дыктаваць нам умовы", — сцвярджаецца ў „Інфармацыйным бюлетэні" Міністэрства замежных спраў Беларусі, які быў распаўсюджаны ў сувязі з 55 гадавінай вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Дзень 3 ліпеня святкуецца цяпер афіцыйным Мінскам як Дзень незалежнасці. Яшчэ не так даўно афіцыйным нацыянальным святам быў дзень 27 ліпеня — устаноўлены ў гонар дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі (1990 г.). Ну і ёсць таксама дата 25 сакавіка — гісторыкі згодныя, што абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (1918 г.) было тым актам, які не дазволіў ужо нікому ігнараваць памкненні беларускага народа на незалежнасць (*не было б БНР, не было б і БССР*). Аднак 25 сакавіка афіцыйна ніколі не было ўсанкцыянавана. Калі гаварыць пра даты, дык несумненна найдаўжэйшую афіцыйную традыцыю мае 1 студзеня — устанаўленне БССР (1919 г.). За 80 год навейшай гісторыі — чатыры даты.

У Беластоку Дзень незалежнасці адзначаўся Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь 1 ліпеня — адбыліся тады прэс-канферэнцыя для мясцовых СМІ і афіцыйны прыём у гасцініцы Галэмбеўскі. Прэс-канферэнцыя супала з уваходам абавязковых ставак страхоўкі на машыны, якія ўязджаюць у Беларусь, таму тэме гэтай журналісты адвялі шмат увагі. Па словах генеральнага консула **Мікалая Крэчкі** абавязковая страхоўка на машыну ў беларускай фірме не з'яўляецца рэакцыяй на абавязковую польскага боку ў перасяканні мяжы грамадзянамі Беларусі. Справа страхавак навісала ад паўтары года, сказаў М. Крэчка.

Генеральны консул паведаміў таксама пра становішча ў беларускай гаспадарцы: у красавіку 1999 г. у параўнанні да таго ж месяца 1998 г. прамысловая вытворчасць вырасла на 9%, транспарт — на 10%, а жыллёвае будаўніцтва — на 38%. Цяжкае становішча наглядаецца ў сельскай гаспадарцы, але краіна забяспечвае грамадзян у харчовыя прадукты. На пытанне, ці Падляшскае ваяводства не магло б разрадзіць сваёй перагружанасці сельскагаспадарчымі прадуктамі ў суседнюю Беларусь, М. Крэчка адказаў, што справа зусім не простая — напрыклад нямецкія прадукты намнога таннейшыя за польскія, але „суседзі павінны выпрацоўваць узаемакарысныя формы абмену сельскімі прадуктамі". У сувязі з гэтым рыхтуюцца сустрэчы паміж кіраўніцтвамі Гродзен-

[працяг ☞ 2]



*Алексінац: панарама пасля бамбардзіравання.* Фота S. ILIC

***Размову з наведнікам Югаславіі, а. Міхаілам Негярэвічам, чытайце на стар 4.***

## Вайна духа часу з духам прасторы

Аляксандр Вярбіцкі

У днях 2-3 ліпеня Фонд Баторыя ладзіў у Варшаве міжнародную канферэнцыю пад лозунгам „Балканскія войны 1991-1999. Прычыны і выследкі". На канферэнцыю былі запрошаны інтэлектуалы з Усходняй Еўропы, якія і выказвалі свае думкі пра тое, што дзеецца ў былой Югаславіі. Першага дня выступалі м.інш. былы прэм'ер-міністр Рэчы Паспалітай Тадэуш Мазавецкі і рэдактар Адам Міхнік, а дыскусіі прыслухоўваліся м.інш. былыя прэм'ер-міністры РП Юзэф Алексы і Владзімеж Цімашэвіч, былы міністр замежных спраў РП Дар'юш Расаці, былы першы прэзас Вярхоўнага Суда РП Адам Стшэмбаш, лідэр Уніі працы Рышард Бугай, былая дырэктар Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры РП Багуміла Бэрдыхоўская і другія знатнасці польскага грамадскага жыцця.

Цяжка зразумець тое, да чаго дайшло ў Югаславіі, сказаў сербскі журналіст Небойша Попаў. Югаславія была найбольш адкрытай на Захад краінай рэальнага сацыялізму і можна было спадзявацца, што яна першая стане на шлях рэформаў. А здарыўся парадокс — заміж рэформаў наступіла папуліцкая рэвалюцыя — фаза крывавых войнаў дзеля захопу тэрыторыі і этнічных чыстак. Войны гэтыя яшчэ зарана называць балканскімі, у Сербіі называюць іх Ю-войнамі, але вайна ў Косаве з'яўляецца берагавою і можа, хаця не мусіць, перайсці ў балканскую. Праблему гэтую не вырашаць людзі звонку, яе павінны рашаць тыя людзі, што там жывуць. Няма аднак уяўлення, як гэтую папулісцкую рэвалюцыю закончыць.

Тадэуш Мазавецкі, які нейкі час ад імя міжнароднай супольнасці намагаўся давесці да перамір'я ў Босніі, сказаў, што да сённяшняй гуманітарнай катастрофы ў былой Югаславіі прычыніўся шэраг памылак Еўропы: не было плана міжнароднай аховы для бескрывавага падзелу суб'ектаў былой федэрацыі, Еўропа пагаджалася з дзеяннямі Мілошавіча, не было даведзена да вяртання бежанцаў. Мілошавіч прагматычна дабіваўся сваіх мэтаў і склалася адчуванне бездапаможнасці, немагчымасці супрацьдзеяння яму. Нейкі час панавала пераканане, што сітуацыя выгарыць сама, але драма ў сэрцы Еўропы прадаўжалася і ўсведаміла еўрапейскім элітам, што ў справах міжнароднай аховы правоў чалавека і пагрозы генацыду, калі нельга чаго зрабіць у свеце, дык хаця ў Еўропе. Бо калі б не было інтэрвенцыі, дык мы папалі б у яшчэ большую бездапаможнасць і далей пра тую бездапаможнасць толькі гаварылі б. Не было і няма — падкрэсліў Т. Мазавецкі — антысербскага загавору: нікому не было даспадобы бамбардзіраванне Бялграда.

Албанскі і сербскі нацыяналізм сфармаваліся ў 19-м стагоддзі, сказаў албанскі пісьменнік Фаташ Любоня. Сербскі нацыяналізм узнік з патрэбы вызвалення роднай зямлі, якую занялі чужынцы, у тым ліку і албанцы. Албанскі нацыяналізм паўстаў з неабходнасці абароны заселенай албанцамі зямлі ад сербаў. Абодва нацыяналізмы сілкаваліся нацыянальнай міфалогіяй скажонай гістарычнай амнезіяй. Сербы пеставалі міф Косавага Поля не згадваючы, што там поруч з сербамі супраць туркаў змагаліся і албанцы, албанцы ж не згадвалі, што маці іх нацыянальнага героя Скандэрбега была сербкай.

[працяг ☞ 4]

## Візіт павятовых радных

На заканчэнне госці спыніліся ў канферэнц-зале Гмінай управы, дзе адбылося падвядзенне вынікаў візіту. Намеснік старшыні Рады павета Славамір Марчук прапанаваў, каб асяродак здароўя змясціць у абшырным будынку новай школы (павет плаціў бы за гэта школе арэнду), а пляц асяродка перадаць пад будову каталіцкай капліцы ў Орлі.

[*болей* ☞ 3]

## Купалле '99

А 21 гадзіне мастацкія калектывы з чыгуначнай рампы направіліся карагодам з купальскімі вянкамі і песняй да сцэны амфітэатра. Прадстаўнікі харавых гуртоў унеслі вянкі на сцэну, Ала Дубец і Юрка Астапчук з „Прымакоў" прыгожа заспявалі „Купалінку". Так пачалося святкаванне старажытнага земляробчага славянскага свята „Купалля".

[*шырэй* ☞ 3]

## У беларускім архіпелагу

Фактычна Кафедра беларускай культуры працуе ад першага кастрычніка 1997 года, але афіцыйна мы яе адкрылі навуковай канферэнцыяй „Аблічча беларускай культуры" ў лютым 1998 года. Гэта была міжнародная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел не толькі тутэйшыя беларусы і палякі, але і беларусы з Мінска і Гродна, а нават госць з Канады.

[*інтэрв'ю з праф. А. Смулковай* ☞ 5]

## Па кім плача звон?

У канцы 60-х гадоў пачалося будаўніцтва мемарыяльнага архітэктурнаскульптурнага ансамбля „Хатынь", што ў 54 км ад Мінска. Па загаду Машэрава з усёй Беларусі на Мінскі радыятарны завод звозіліся старыя званы з храмаў для Хатыні. Сюды, відаць, трапіў і звон з Сынковіцкай царквы.

[*журналісцкае расследаванне* ☞ 9]

## Выйшаў на простую дарогу

Пасля заканчэння школы Мікола Крупіцкі далей сябраваў са сваім настаўнікам. Перапісваўся, калі той паехаў жыць да сястры ў Шчацінак. Усе лісты былі на беларускай мове. Толькі часам цяжка было іх расчытаць, бо пан Аніська меў неразборлівы почырк. Пакінуў яму сваю бібліятэку, 100-200 кніжак і часопісаў на тэму шахматаў. І заўсёды, калі са Шчацінка вяртаўся ў Аўгустова, наведваў яго. Хоць на пяць хвілін заходзіў, хоць прывітацца, пабачыцца.

[*успаміны* ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## МЗС загадалі рабіць паварот кругом

**Заява Аляксандра Лукашэнкі аб змене знешнепалітычнага курсу, якая прагучала ў мінулую пятніцу [2 ліпеня — рэд.], выклікала неадназначную рэакцыю як у Беларусі, так і за яе межамі. У панядзелак [5 ліпеня] гэтая заява абмяркоўвалася на сустрэчы Сяргея Сцяпашына з Барысам Ельцыным. У той жа дзень міністр замежных спраў Беларусі Урал Латыпаў правёў спецыяльны брыфінг, на якім змякчыў некаторыя палажэнні прэзідэнцкага выказвання і нават заявіў, што прэзідэнт гатовы да сумленных выбараў.**

Прыпомнім, што выступаючы ў пятніцу перад дэпутатамі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, Лукашэнка выказаў сваю крыўду ў адрас расійскага кіраўніцтва. Ён заявіў, што калі Расія надалей будзе весці сябе несумленна ў адносінах да беларускага саюзніка, Беларусь пераарыентуецца на Захад. Апрача гэтага Лукашэнка аб'явіў аднабаковы мараторый на ўсялякія інтэграцыйныя ініцыятывы.

Пасольствы і Міністэрства замежных спраў Беларусі сталі паспешліва выконваць ініцыятыву Лукашэнкі. Ужо ў пятніцу [2 ліпеня] вечарам пасольствы Беларусі ў Брусэлі, Варшаве, Лондане, Парыжы і Вашынгтоне атрымалі шыфраграмы з патрабаваннем падрыхтаваць на працягу некалькіх дзён прапановы па нармалізацыі адносін з кіраўніцтвамі гэтых дзяржаў і еўрапейскімі структурамі. (...)

Дэпутат Дзярждумы Уладзімір Аверчаў перакананы, што заява „адрасавалася Барысу Ельцыну". Карацей кажучы, большасць палітыкаў мяркуе, што Лукашэнка вырашыў пашантажыраваць свайго расійскага калегу.

Калі Лукашэнка імкнуўся да гэтага, то гэтай мэты ён не дасягнуў. У панядзелак [5 ліпеня], падчас сустрэчы са Сцяпашыным, Барыс Ельцын адрэагаваў на заяўленні Лукашэнкі вельмі спакойна, сказаўшы, што ён сам асабіста мае намер „паціхеньку весці справу далей". Сяргей Сцяпашын нават уцешыўся з новага курсу беларускай палітыкі і заявіў, што Расія гатова вітаць збліжэнне Беларусі з Захадам: „Саюз, які будзе паміж Беларуссю і Расіяй, ні ў якім выпадку не стане перашкодай на шляху фарміравання адзінай Еўропы". (...)

У той жа дзень адбылася тэлефонная размова паміж Сяргеем Сцяпашыным і Аляксандрам Лукашэнкам. Пасля яе Сцяпашын заявіў, што „дамовіліся да канца ліпеня зрабіць пад гэты дагавор канкрэтныя праграмы". Пасаду саюзнага прэзідэнта Лукашэнку нават не абяцалі.

У той жа дзень брыфінг для журналістаў правёў Урал Латыпаў. Міністр замежных спраў паведаміў, што „крытычныя выказванні прэзідэнта адносна некаторых элементаў беларуска-расійскага супрацоўніцтва не абазначаюць змены пазіцыі ў адносінах да Расіі: РФ была і застаецца асноўным стратэгічным партнёрам Беларусі". Праўда, Урал Латыпаў паабяцаў, што новы курс усё-такі будзе. „Заходні накірунак быў занядбаны і Беларусь аказалася за бортам еўрапейскай інтэграцыі", — сказаў Урал Латыпаў. Бліжэйшая задача МЗС — дабіцца, каб пачалі рэальна працаваць раней падпісаныя дамовы „Пагадненне аб партнёрстве" і „Часовае пагадненне аб гандлёвым супрацоўніцтве".

Калі Беларусь сапраўды намерваецца сябраваць з Захадам, дык якраз цяпер надараецца цудоўная для гэтага нагода. Па словах Урала Латыпава, нармалізацыя адносіны з заходнімі краінамі будзе складана, але пры наяўнасці цвёрдай пазіцыі і акрэсленых крокаў гэта зрабіць можна. Галоўны камень спатыкнення на шляху нармалізацыі адносін з заходнімі краінамі — беларуская Канстытуцыя 1994 года са зьмяненнямі і дапаўненнямі 1996 года. Паводле Канстытуцыі без дапаўненняў тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі канчаецца 20 ліпеня.

Захад настайвае на перамовах Лукашэнкі з апазіцыяй і неабходнасці легалізацыі Лукашэнкі пасля 20 ліпеня. АБСЕ прабавала арганізаваць перамовы ў Бухарэсце. Беларускія ўлады на іх не згадзіліся. 3 чэрвеня на святкаваннях з нагоды Дня незалежнасці Лукашэнка заклікаў апазіцыю да канструктыўнага дыялогу. У панядзелак Урал Латыпаў яшчэ раз засяродзіў увагу на гэтай заяве: „Прэзідэнт гатовы да адкрытай, сумленнай перадвыбарчай барацьбы". Спецыяльная група АБСЕ прыязджае ў палове ліпеня ў Мінск, каб арганізаваць перагаворы паміж уладай і апазіцыяй на месцы.

Мяркуючы па ўсім, на гэты раз прэзідэнт будзе больш падатлівы. Ва ўсялякім разе Лукашэнка ўжо агучыў пазіцыю, якой ён мае намер прытрымоўвацца ў ходзе перагавораў. Беларускі прэзідэнт заявіў, што Канстытуцыя 1996 года непарушная і выбары адбудуцца не раней 2001 года. Трохі інакш выказаўся Урал Латыпаў, які заявіў, што „прававая сістэма Беларусі не аксаціянелы звод норм і можа мяняцца". Урал Латыпаў, праўда, лічыць, што з уладай павінны размаўляць не толькі апазіцыянеры, але прадстаўнікі „шырокіх грамадскіх сіл".

Як заявіў Урал Латыпаў, „Беларусь не зможа нармальна развівацца, не маючы нармальных адносін з Еўрапейскім Саюзам". Цяпер Беларусь, як ніколі раней, патрабуе танных харчовых прадуктаў з Польшчы, лякарстваў з Нямеччыны і крэдытаў ад МВФ. Каб вярнуць тое, што было страчана на заходнім напрамку, Лукашэнку дастаткова згадзіцца на правядзенне прэзідэнцкіх выбараў пасля 20 ліпеня. Да таго ж гэтай восені цяперашні прэзідэнт мае яшчэ шансы выйграць выбары. У 2000 або ў 2001 годзе, пры пагаршэнні эканамічнага становішча, без дапамогі з Захаду і Усходу Лукашэнка не будзе ўжо мець такога шансу. Магчыма, што аб'яўляючы новы курс, Лукашэнка хацеў забіць трох зайцоў: атрымаць дапамогу з Захаду, прадоўжыць тэрмін свайго прэзідэнцкага кіравання яшчэ на пяць гадоў і заадно напалохаць Расію. У апошняй справе поспеху ён, відавочна, не дасягнуў.

**Андрэй Махоўскі**
*Белорусская деловая газета, № 608, 7.07.1999 г.*

## Зварот рэдакцыі газеты „Голас Радзімы"

Шаноўныя чытачы нашай газеты!

Доўгі час мы былі з Вамі побач. Кожны тыдзень Вы атрымоўвалі весткі з нашай Бацькаўшчыны, а мы атрымоўвалі навіны ад Вас. Наша газета рассылалася ўсім Вам бясплатна. Але час мяняецца, з-за павышэння коштаў перасылкі газета можа спыніць сваё існаванне. Таму з 1 ліпеня газета будзе дасылацца толькі тым, хто аплаціць яе перасылку. Большасць нашых чытачоў згодна аплачваць гэтыя выдаткі.

Кошт за месяц (за чатыры газеты) — 2 долары.

**Наш адрас:**
**БЕЛАРУСЬ, 220005, Мінск,**
**пр. Ф. Скарыны, 44.**
**„Голас Радзімы"**

## Будуць рэстаўрыраваць Жыровіцкі манастыр

Некалькі інстытутаў Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь атрымалі заданне распрацаваць праекты рэканструкцыі Свята-Успенскага манастырскага комплексу ў Жыровічах.

Гэты факт карэспандэнту „ГС" падцвердзіў епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый.

Ён сказаў, што Жыровічы з'яўляюцца духоўным цэнтрам праваслаўнай Беларусі. Успенскі сабор і галоўны манастырскі комплекс патрабуюць архітэктурных даследаванняў і аб'ёму інжынерных работ. Сабор дае трэшчыны, цячэ дах, неабходна сур'ёзнае добраўпарадкаванне манастырскай тэрыторыі.

Праграма рэстаўрацыі нашай праваслаўнай святыні прымеркавана да святкавання 2000-годдзя Раства Хрыстова.

**Сяргей Чыгрын**
*Газета Слонімская, № 108, 1-7.07.1999*

## У гонар Васіля Быкава

У Дзятлаўскай раённай бібліятэцы аформлена кніжная паліца, прысвечаная 75-годдзю Васіля Быкава.

На ёй змешчаны фотаздымкі і кнігі пісьменніка, а таксама творы пра яго жыццё і творчасць.

**Леанарда Юргілевіч**
*Газета Слонімская, № 108, 1-7.07.1999*

## Беларуская незалежнасць

[1 ☞ працяг]

скай і Брэсцкай абласцей ды кіраўніцтвамі Падляшскага і Люблінскага ваяводстваў.

— Не лічу, каб у час гэтых сустрэч прад'яўляліся палітычныя прэтэнзіі. Трэба знайсці выйсце з гаспадарчага імпасу, — сказаў М. Крэчка.

Афіцыйны прыём у Беластоку з нагоды Дня незалежнасці ўдастоіў прадстаўнік Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі **Віктар Кучынскі**, які па-беларуску прывітаў гасцей ды сказаў шмат прыгожых слоў пра еўрапейскую супольнасць і месца Беларусі ў ёй. І хаця польская грамадская думка прад'яўляе прэтэнзіі да развіцця дэмакратыі ў Беларусі, то трэба аб'ектыўна сцвердзіць, што афіцыйны Беласток ушаноўвае і дзяржаву Беларусь, і яе Дзень незалежнасці 3 ліпеня. Можна гэта сказаць нават пра ваяводу К. Лукашук (віншавальны ліст), якой абавязкі пакуль не дазваляюць асабіста ўдзельнічаць у такіх мерапрыемствах.

**Аляксандр Максімюк**

## Як рускія ў Беларусі ў вайну гулялі

Упершыню з часоў апошняй вайны ціхая беларуская вёска была падвергнута нападу ўзброенага атрада, жыхары збіты і зняважаны.

З далёкага Сургуту прыехалі ў Беларусь 100 падлеткаў і 30 іх выхавацеляў з ваенізіраванай арганізацыі „Беркут", каб пагуляць у „потриотов" і адзначыць Дзень вызвалення Беларусі ад немцаў. Яны сталі лагерам каля вёскі Мікалаеўка Светлагорскага раёна. Прывёз іх бізнесмен Анатоль Сілівончык, які паходзіць з гэтых мясцін.

Раніцай 30 чэрвеня, узброены газавай зброяй, кайданкамі і пнеўматычнымі ружжамі, апрануты у форму расійскіх марскіх пехацінцаў атрад пад расійскім Андрэеўскім сцягам напаў на Мікалаеўку. Пачалася „карная" акцыя. Мужчын, у большасці састарэлых пенсіянераў, збівалі і звязвалі. Спрабуючых ратаваць іх жанчын атручвалі газам. Старшыня калгаса, які спрабаваў бараніцца, быў жорстка збіты і, скручаны вяроўкамі, пакладзены на сваім стале. Усё працягвалася паўгадзіны. Пасля Анатоль Сілівончык павіншаваў сваіх землякоў з Днём вызвалення і адпусціў.

Узброены атрад накіраваўся ў Бабруйск, дзе быў гасцінна прыняты ў вайсковай часці „Белорусской армии". Усё гэта было ўзгоднена з мясцовымі ўладамі і насіла назву „военно потриотическая игра «Зарница»". Толькі 3 ліпеня, калі ў міліцыі сабралася шмат скаргаў ад збітых жыхароў Мікалаеўкі, улады зразумелі, што „перегнули палку". У вайсковую часць, дзе гасцявалі „русские братья", увайшоў атрад АМАПа і арыштаваў удзельнікаў нападу на вёску. Аднак неўзабаве ўсе „беркутаўцы", акрамя Сілівончыка, былі адпушчаны. Іх адвезлі ў Смаленск і пакінулі ў спакоі. Супраць Анатоля Сілівончыка ўзбуджана крымінальная справа.

**Зміцер Кісель**

**Некаторыя стаўкі па абавязковым страхаванні машын, якія ўязджаюць у Беларусь (у ЕЎРА)**

| Сродак трансп. | 15 дзён | 1 мес. | 2 мес. | 3 мес. | 4 мес. | 5 мес. | 6 мес. | 7 мес. | 8 мес. | 9 мес. | 10 мес. | 11 мес. | 1 год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Легк. аўтамабілі** да 1200 см$^3$ | 0,8 | 1,7 | 3 | 4,2 | 5,3 | 6,1 | 6,9 | 7,4 | 8 | 8,4 | 8,7 | 9,1 | 9,4 |
| 1200 - 1800 см$^3$ | 1,1 | 2,1 | 3,8 | 5,3 | 6,6 | 7,7 | 8,6 | 9,3 | 10 | 10,5 | 11 | 11,4 | 11,8 |
| 1800 - 2500 см$^3$ | 1,3 | 2,7 | 4,7 | 6,6 | 8,2 | 9,6 | 10,8 | 11,6 | 12,5 | 13,1 | 13,7 | 14,3 | 14,7 |
| 2500 - 3500 см$^3$ | 1,6 | 3,2 | 5,7 | 8 | 9,9 | 11,5 | 12,9 | 14 | 15 | 15,8 | 16,5 | 17,2 | 17,7 |
| звыш 3500 см$^3$ | 1,9 | 3,8 | 6,8 | 9,5 | 11,9 | 13,8 | 15,5 | 16,7 | 18 | 18,9 | 19,7 | 20.6 | 21,2 |
| **Аўтобусы** да 20 месц | 3,6 | 7,3 | 12,9 | 18,1 | 22,6 | 26,2 | 29,4 | 31,8 | 34,3 | 35,9 | 37,5 | 39,1 | 40,3 |
| 21 - 40 месц | 5,2 | 10,5 | 18,6 | 26,2 | 32,6 | 37,8 | 42,5 | 46 | 49,5 | 51,8 | 54,1 | 56,5 | 58,2 |
| звыш 40 месц | 7,3 | 14,5 | 25,8 | 36,3 | 45,1 | 52,4 | 58,8 | 63,7 | 68,5 | 71,7 | 75 | 78,2 | 80,6 |

# Візіт павятовых радных

**XI сесія Рады павета Бельск-Падляшскі мела выязны характар і адбылася 26 чэрвеня ў Боцьках. Радныя пры нагодзе наведалі Орлю, дзе пазнаёміліся са станам дарог і важнейшымі грамадска-гаспадарчымі пытаннямі гміны.**




*У першым радзе справа: стараста Марэк Лукашэвіч, старшыня Рады павета Бажэна Гратовіч, Генрык Грабоўскі, Славамір Марчук, Мікалай Кадлубоўскі і скарбнік Управы гміны ў Орлі Аляўціна Іваноўская.*

**Праблема католікаў**

Спачатку павятовыя радныя заняліся стаўленнем гміннай адміністрацыі да патрабаванняў мясцовых католікаў выдзеліць ім пляц пад будову капліцы. У Орлі і наваколлі жыве 46 каталіцкіх сем'яў, якія моляцца ў старым малым драўляным доміку. Старанні католікаў ігнаруюцца войтам, які нават не адказвае на іх пісьмовыя прашэнні.

— Пасля вайны каталіцкая капліца змяшчалася ў мураваным будынку, у тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца новая школа, — расказваў пенсіянер Ян Дэмборуг. — У ім былі яшчэ пастарунак міліцыі і прытулак для дзяцей. Калі гэты будынак быў прызначаны для гміннай адміністрацыі, капліцу перавялі ў палову дома Станіслава Пішчатоўскага па вуліцы Міцкевіча. У другой палове жыў сакратар Сніткоўскі, які перашкаджаў у багаслужбах, а ў канцы выкінуў абсталяванне капліцы ў хлеў. Цяперашняя капліца знаходзіцца таксама не ў нашым будынку. Навокал будуецца многа новых храмаў, дык і ў Орлі можна...

**Важная вера ў Бога**

Павятовы радны і заадно войт Браньскай гміны Кшыштаф Явароўскі выказаў здзіўленне сітуацыяй у Орлі. У Браньску, дзе праваслаўных зусім мала, без праблемаў будуецца царква, а гарадская ўправа фінансава падтрымала гэтую ініцыятыву.

— Памагаем, — сказаў Кшыштаф Явароўскі, — бо самае важнае — вера ў Бога, а не мова малітваў.

— Лічу, што перадача пляца пад капліцу неўзабаве стане магчымай, — заявіў віцэ-стараста Рышард Анусевіч. — Мы ўжо распрацавалі канцэпцыю і запрапануем Радзе павета спосаб яе ажыццяўлення.

З-пад капліцы госці пераехалі пад будынак Управы гміны. Там чакалі іх старшыня Рады гміны і некалькі чыноўнікаў — без войта гміны.

**Амбулаторыя, сінагога і царква**

Усе — госці і гаспадары — пайшлі пешшу паглядзець будынак гміннай амбулаторыі, які цяпер належыць павету. Затым візіцёры паглядзелі фундамент пад новы асяродак здароўя, які ўжо 10 гадоў парастае мохам і разбураецца. Гміна да гэтай пары не прыняла рашэння аб далейшых лёсах гэтай будовы. Павятовыя госці цікавіліся таксама старажытнай сінагогай, яе мінулым і сённяшнім станам. Хаця рамонт быў праведзены 9 гадоў таму, цераз пашкоджаныя сцёкавыя трубы дажджавая вада льецца на сцены. Гміна, якая карыстаецца будынкам і пляцам, толькі дзень да візіту папрывіла трубы.

Госці наведалі таксама царкву, у якой якраз адбывалася багаслужба. Радны Юзаф Бжана пахваліў мясцовага настаяцеля Аляксандра Такарэўскага за яго гаспадарлівасць.

**Смяротны паварот**

Аб'езд гміны завяршыўся наведаннем „паварота смерці" на дарозе ў Шчыты. 200-метровы адрэзак дарогі, неасфальтаваны, з прамавугольным паваротам далей пагражае бяспецы дарожнага руху. Каб выпраміць паварот, трэба выкупіць некалькі араў зямлі ад Кааператыва сельскагаспадарчых паслуг. Павятовы радны Юзаф Бжана заўважыў, што гэтая дарога належыць павету і павет павінен неадкладна вырашыць гэтую справу.

**Падвядзенне вынікаў**

На заканчэнне госці спыніліся ў канферэнц-зале Гміннай управы, дзе адбылося падвядзенне вынікаў візіту. Намеснік старшыні Рады павета Славамір Марчук прапанаваў, каб асяродак здароўя змясціць у абшырным будынку новай школы (павет плаціў бы за гэта школе арэнду), а пляц асяродка перадаць пад будову каталіцкай капліцы. Бурмістр Браньска Кшыштаф Явароўскі падказаў, каб у школьны будынак перанесці асяродак культуры, а гмінную амбулаторыю перавесці ў будынак цяперашняга ГОКа.

Ініцыятар візіту ў Арлянскую гміну і заадно павятовы радны Мікалай Кадлубоўскі з Рыгораўцаў сказаў:

— Мне прыемна, што калега радны з Браньска ўспомніў аб станоўчых адносінах да праваслаўных у сваёй гміне і аб будове там царквы. А я, у прысутнасці старшыні Рады гміны Орля заяўляю, што будзе вызначаны пляц пад каталіцкую капліцу ў Орлі. Мне таксама прыемна, што вы наведалі нашу гміну і спадзяюся, што далей будзем раіцца супольна. Памятайце аб Орлі пры размяркоўванні павятовага бюджэту.

**У Боцьках**

XI сесія Рады павета пачалася ў Боцьках а 13 гадзіне. Спачатку 27 радных (1 непрысутны) заслухалі інфармацыю пра санітарнае становішча ў павеце, затым прынялі статут Дома сацыяльнай апекі ў Браньску і далі Акурговай управе Польскага саюза вудзільшчыкаў згоду на стварэнне Рыбацкай аховы. Радныя выбралі таксама Сельскагаспадарчы банк для абслугі сваіх рахункаў.

**Пасля пасяджэння**

Радныя праверылі яшчэ стан дарог у Боцькаўскай гміне. Аказалася, што ў гміне, вядомай высокай прадукцыяй малака, дарогі зусім дрэнныя. Госці наведалі мясцовы касцёл і нанеслі прыватны візіт войту Станіславу Дэрэхайлу, які нядаўна ажаніўся. Войт частаваў радных на вольным паветры.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Купалле '99

Спякотны трэці дзень ліпеня. Субота. Толькі надвячоркам стала лягчэйшае, менш душнае паветра. У гэты час па дарогах Гайнаўскага павета ў напрамку Белавежы ехалі людзі на традыцыйнае ўжо беларускае святкаванне старажытнага земляробчага свята „Купалля", якога арганізатарамі з'яўляюцца Галоўнае праўленне БГКТ і мясцовыя ўлады Белавежы.

Месца ўрачыстасці — гэта своеасаблівы амфітэатр без сядзячых месцаў з высакаватай крытай сцэнай. Па абодвух баках шматлікія кіёскі з рознымі ласункамі, півам і марожаным. Даходны гэта дзень для прадпрымальнікаў, бо на „Купалле" збіраюцца ад чатырох да сямі тысяч чалавек.

А 21 гадзіне мастацкія калектывы з чыгуначнай рампы направіліся карагодам з купальскімі вянкамі і песняй да сцэны амфітэатра. Прадстаўнікі харавых гуртоў унеслі вянкі на сцэну, Ала Дубец і Юрка Астапчук з „Прымакоў" прыгожа заспявалі „Купалінку". Так пачалося святкаванне старажытнага земляробчага свята „Купалля". Аб яго вытоках расказаў старшыня ГП БГКТ, пасол Ян Сычэўскі, які адначасова прывітаў публіку і дастойных гасцей — Генеральнага консула РБ Мікалая Крэчку і яго намесніка Паўла Латушку з жонкамі, прэзаса страхавой установы „Поліса" з Варшавы Станіслава Гутэка з жонкай — хросната бацьку беластоцкага хору БГКТ „Крыніца" і прадстаўнікоў Беластоцкага аддзела гэтай страхавой установы Станіслава Лапіча і Васіля Гульку (з жонкамі), старасту Гайнаўскага павета Уладзіміра Пятрочука, войтаў Белавежы, Гайнаўкі, Чаромхі, Дубічаў-Царкоўных, Орлі, бурмістраў Гайнаўкі і Кляшчэль.

Яна Сычэўская змяніла Валянціна Ласкевіч, якая выказвала падзяку спонсарам, пакрытыкавала ваяводскія ўлады за тое, што не прызначылі ні граша на святкаванне „Купалля", прадставіла „Полісу" і папрасіла на сцэну калектывы. Першая выступіла „Маланка" з Бельска-Падляшскага, якая захапіла прысутных папуры вядомых беларускіх песень. Пасля па дзве песні спявалі дзяўчыны з Белавежы, калектыў з Орлі, „Вербніца" з Пружан, што на Беларусі, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, „Рэчанька" з Козлікаў, „Васілёчкі" з Бельска і „Ас" з Беластока.

Купальскі канцэрт публіка ўспрымала вельмі цёпла. Многія танцавалі пад мелодыі беларускіх песень.

А канцэрт працягваўся. Выступілі яшчэ два гурты з Пружан, „Чыжавяне" з Чыжоў, „Цаглінкі" з Ляўкова, жанчыны з Агароднічак, „Крыніца" з Беластока і Ала Дубец, хор Гайнаўскага дома культуры. На канец выступілі найбольш папулярныя гурты — эстрадны калектыў з Мазыра і „Прымакі".

У ходзе канцэрта Валянціна Ласкевіч заклікала публіку направіцца ў пушчу шукаць папараць-кветку, прыслухацца размовам дрэў і звяроў, пабыць на ўлонні прыроды.

А тым часам карагод з купальнымі вянкамі і песняй „Купалінка" направіўся на рэчку. І паплылі вянкі ў даль, мільгаючы свечачным святлом да людзей, якія не адчувалі стомы пасля больш як трохгадзіннага канцэрта.

Многія ўдзельнікі свята асталіся на танцах пад музыку „Прымакоў" у амфітэатры, а многія паехалі ў пушчу, дзе гулянне пры кастрах працягвалася да самай раніцы.

**Міхась Хмялеўскі**

# Развітанне на час канікулаў

Заканчэнне навучальнага года ў Гайнаўскім беллiцэі адбылося 25 чэрвеня. Праходзіла яно ў новай спартыўнай зале. Вучняў, якія прыйшлі развітацца з настаўнікамі і сябрамі, прывітаў дырэктар Яўген Сачко.

У Гайнаўскім беллiцэі вучылася 520 ліцэістаў, сярод якіх 123 — выпускнікі, якія развіталіся са школай ужо ў маі. З ліку малодшых сяброў 132 закончылі вучобу з сярэдняй ацэнак не горшай, чым 4, 8 ліцэістаў не перайшло ў наступны клас. Вучні класаў з матэматычным, фізічным, біялагічным і хімічным ухілам сталі найлепшымі ў школе паводле вучобы. Найвышэйшую сярэднюю ацэнак атрымалі вучні з класаў I а, IV б, II б, IV а, і II а. Дырэктар Яўген Сачко інфармаваў, што не было асаблівых выхаваўчых праблем, а найчасцей вучні прапускалі заняткі па прычыне хваробы. Найбольшых поспехаў дабіліся вучні на алімпіядах беларускай і рускай моў, а рыхтавалі іх настаўнікі Вольга Сянкевіч, Ян Карчэўскі і Крысціна Бяляўская. Лаўрэатамі беларускай алімпіяды сталі Анна Найбук, Анна Садоўская, а фіналістамі Міхал Корх і Павел Болтрык. Званне фіналіста алімпіяды рускай мовы атрымала таксама Анна Найбук. Пахвальным водзывам за вусны адказ у Рэспубліканскай алімпіядзе беларускай мовы, якая адбылася ў Беларусі, вылучана была таксама Анна Садоўская. Многія з пераможцаў у алімпіядах прыняты будуць у вышэйшыя навучальныя ўстановы без экзаменаў.

— Для многіх нашых вучняў марай было паступіць у Варшаўскі універсітэт на напрамак індывідуальных грамадскіх навук, студэнты якога вучацца на розных аддзяленнях і іх мары здзейсніліся дзякуючы алімпіядзе беларускай мовы, — сказала настаўніца Вольга Сянкевіч. — Сёлетнія нашы выпускнікі, заадно лаўрэаты IV і V алімпіяд, Анна Васілюк, Ігар Іванюк, Іаанна Масайла, Ева Аксянцюк і Войцех Сегень прыняты на згаданы напрамак, а Анна Найбук на аддзяленне паліталогіі Варшаўскага універсітэта.

— Зараз пасля падвядзення вынікаў V Алімпіяды беларускай мовы прыйшлі да мяне вучні другога класа і прасілі даць ім перад канікуламі літаратуру для падрыхтоўкі да ўдзелу ў алімпіядзе ў наступным годзе, — кажа Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы.

У час школьнага мерапрыемства дырэктар Яўген Сачко ўручыў узнагароды для выдатнікаў. Пасля вучні развіталіся на час канікулаў са сваімі настаўнікамі, а ўжо ад сваіх выхавацеляў атрымалі пасведчанні.

**Аляксей Мароз**

# Вайна духа часу з духам прасторы

[1 ☞ працяг]

У Югаславіі, наадварот чым у СССР і Чэхаславакіі, калі аджываў камунізм, сказаў косаўскі грамадскі дзеяч Шкельцен Малічы, адрадзіўся сербскі нацыяналізм. Камуністы аб'ядналіся з нацыяналістамі і так узнікла выбуховая сумесь, якая і вынесла Мілошавіча да ўлады. А ён сербскія праблемы пачаў вырашаць найгоршым з магчымых спосабаў.

Рух супраціўлення ў Косаве моцна перавялічаны, сказала польская журналістка Анна Гусарска. Ругова быў прыхільнікам прынцыпу *non violent* — без насілля. І гэта асмельвала Мілошавіча, тым больш, калі не даведзены былі справы ў Босніі да канца і галоўныя вінаўнікі тамашніх гвалтаў астаюцца бяскарнымі. Калі ў Косаве адбываліся нейкія пратэсты, тады амерыканцы запрашалі галоўных іх акцёраў у Вашынгтон каб паказацца з імі. У 1997 годзе Ругова пачаў траціць пашану касавараў (албанскіх жыхароў Косава — А. В.), бо ў выніку непаладкаў у Албаніі ў Косава трапіла адтуль многа ружжа і ў 1998 годзе пачаліся першыя сутычкі косаўскіх партызан з югаслаўскім войскам. Можна сказаць, што з тае пары касавары ўзялі свой лёс у свае рукі — рукі з *Калашнікавым*. Сённяшняе бежанства касавараў давяло да паўстання Вялікай Албаніі, чаго Мілошавіч так баяўся. Цяпер сербам цяжка будзе астацца ў Косаве, бо многія справы там афармляюцца „з дапамогай заржавелай лыжкі" і каб да такога не дапусціць патрэбныя салдаты ААН на кожным панадворку.

Адам Міхнік заўважыў, што касавары могуць пайсці следам Мілошавіча і этнічныя чысткі ў іх выкананні былі б злавеснай яго перамогай. Албанскія баевікі могуць давесці да падобнага як у Афганістане насілля; ужо дзе-нідзе Косава называюць Албаністанам.

Мілошавіч і Туджман гэта два сіямскія браты, якія не могуць без сябе жыць, сказаў А. Міхнік. Яны разам рашылі праблему Крайны.

У 1989 годзе Мілошавіч скасаваў аўтаномію Косава і Ваяводзіны, адобрылі гэты крок улады Славеніі і Харватыі. Год пазней сербы ў Харватыі аб'явілі аўтаномію Крайны, якой, з аглядкай на Мілошавіча, не прызнаў харвацкі прэзідэнт Туджман. У лістападзе 1994 года міжнародныя эксперты выпрацавалі кампрамісны праект аўтаноміі Крайны, які згодна адкінулі і сербы, і харваты. У жніўні 1995 года заграбскія ўлады рашылі вярнуць кантроль над усёй харвацкай тэрыторыяй, дата харвацкага наступлення была вядомая тыдзень загадзя і крайненскія сербы арганізавана пакінулі сваю не дачакаўшую аўтаноміі радзіму. Быў бы Мілошавіч больш прадбачлівым — быў бы шанц астацца сербам у Крайне.

Іва Банац, выкладчык Йельскага і Заграбскага ўніверсітэтаў, расказаў, што ў 1914 годзе брат яго дзеда служыў у аўстрыйскім флоце. На вестку пра забойства эрцгерцага Фердынанда адзін чарнагорац сказаў яму: „Добра, што так сталася". Сваяк Банаца падтакнуў яму. Іх размову пачуў аўстрыйскі афіцэр і абаіх расстралялі. На Адрыятычным узбярэжжы ідэя Югаславіі была каліcь папулярная.

Нядаўна Іван Чычак, які сябе называе харвацкім нацыяналістам, арганізаваў у Заграбе канферэнцыю на тэму „Сербы ў Харватыі"; для яе бяспечнага правядзення спатрэбіліся атрады спецназа, а самога Чычака сталі называць здраднікам і *югаастальгічарам*.

У Славеніі, якая аддзялілася ад Бялграда, як на югаслаўскія ўмовы, даволі „аксамітна", няма такое прадузятасці да Югаславіі. На апытанне накшт нядаўняга мінулага 65% славенцаў адказала што было „крыху добра, крыху дрэнна", 25% — „добра", а толькі 10% — „таталітарна і рэпрэсійна". Вартасць прадукту на аднаго жыхара Славеніі ў параўнанні да такога ж паказчыка для Косава ў 50-х гадах была роўная 160:40, а трыццаць гадоў пазней ужо 200:24 (для ўсёй Югаславіі гэты паказчык роўны 100); няма тады і вялікага дзіву вынікам апытання.

Гісторыя Югаславіі гэта гісторыя розных людзей, пражываючых на адной тэрыторыі. Да першай сусветнай вайны балканскую прастору каланізавалі дзве імперыі: аўстрыйская і асманская. Пасля першай сусветнай вайны Югаславія была сфарміравана як адзін з варыянтаў рашэння балканскіх праблемаў. „Быў гэта збітак многіх суб'ектаў засвоены адным, ігнаруючым апошнія" (Русмір Махмутчэхаіч з Сараева). У 19-м стагоддзі найбольшую арганізаванасць паказалі сербы і яны атрымалі шанц упарадкавання сітуацыі. „Узнікненне Югаславіі не было памылкаю, толькі кіраванне ёю было катастрофай" (І. Банац). Першая Югаславія, заснаваная на дамінацыі сербаў, выклікала адмоўную рэакцыю харватаў, якія з-пад аўстра-венгерскай гегемоніі папалі пад сербскую і ў другую сусветную вайну яна распалася. Другая югаслаўская дзяржава не ўзнікла б, калі б не камуністычная партыя; упадак камунізму пацягнуў і ўпадак Югаславіі. „Улады другой Югаславіі атрымалі легітымнасць у выніку другой сусветнай вайны; яна слабела пад уплывам страйкаў і інтэлектуальных рухаў. Узмацняліся ніжэйшыя слаі наменклатуры, якія легітымнасць пачалі пераносіць з класавага грунту на нацыянальны" (Н. Попаў). „Мілошавіч першым усведаміў, што Ціта не жыве і пачаў майстраваць пры сістэме, якую Ціта стварыў. Правёў ён бюракратычную рэвалюцыю і ў ЗША палічылі яго нават рэфарматарам" (І. Банац).

Растка Мочнік са Славеніі прыгадаў, што ў 1348 годзе ад чумы загінула дзве трэці славенцаў. І ад таго часу трываюць спрэчкі, ці была гэта трагедыя, ці пачатак новага дабрабыту. Магчыма, што і пра сённяшні развал Югаславіі такія спрэчкі будуць доўжыцца шэсць стагоддзяў.

Анна Гусарска займалася балканскімі пытаннямі на старонках нью-йоркскай газеты „New Republica". Калі раней прыехала яна ў Бялград па пропуск у Косава, ёй адмовілі, бо мела на сабе фірменную майку; даволі, сказалі ёй, новых рэспублік, маючы на думцы Косава. Калі ж у такім выглядзе з'явілася ў Косава пасля адступлення сербаў, касаварскія баевікі здзерлі з яе майку і шапачку каб сабе мець той сімвал новага.

Адзін з касавараў сказаў афіцэру ААН: не бойцеся быць каланізатарамі. І няясна, што было прычынай такога звароту: ці патрэба стварэння новых грамадскіх структур, ці страх перад сербамі, ці страх перад сваімі; бывае, што здзекі над сваімі адбываюцца ў імя нацыяналізму. Моцная прысутнасць чужых можа падвучыць мясцовых і даць касаварам час вызначыць нейкія мэты, бо цяпер то яны сварацца між сабою пра адносіны да сербаў. Сварацца яны не размаўляючы з сабою, як Ібрахім Ругова з Хашымам Тачы. Косаўскія сербы былі змілітарызаваныя і цяпер многія з іх прымушаны да ўцёкаў, а ўсе прымушаны да страху. „Насілле існуе ўсюды, але ў Югаславіі яно з'яўляецца нормай" (Н. Попаў).

Бамбардзіроўка Югаславіі, якую можна назваць „першаю вайной у абароне правоў чалавека, а не вайной за тэрыторыю багатую нафтай" (Р. Бугай), якую эмфатычна называюць таксама вайною духа часу з духам прасторы, разбурыла патэнцыял Сербіі, але праблемы Косава не вырашыла. Калі цяпер не загарантуецца тых правоў у Косаве, звядзецца да нуля сэнс інтэрвенцыі і ў Сербіі не стане аргументаў супраць Мілошавіча. Калі войска ААН будзе ахоўваць толькі касавараў, сербы пачнуць шукаць заступнікаў напр. у Расіі.

Праблема Косава паставіла многа пытанняў: „якія этнічныя групы маюць права на самастойнасць, а якія толькі на аўтаномію. Нормаў міжнародных тут няма і прымаюцца арбітральныя рашэнні акрашаныя цынізмам: лягчэй выгнаць дзвесце тысяч сербаў чым два мільёны касавараў" (Андранік Міграняан з Масквы). Паўстаў балаган, з якога невядома як выбрацца, асабліва ва ўмовах Югаславіі. Іван Чычак заўважыў, што ў сербскахарвацкім слоўніку іншамоўных слоў адсутнічае тэрмін „талерантнасць" і калі дапусціць, што немагчыма быць мешаным дзяржавам, то і немагчыма быць мешаным сужонствам. Прамоўцы гаварылі, што ўзніклыя праблемы павінны вырашыць самыя жыхары былой Югаславіі, але як гэта зрабіць — ніхто не ведае. Згадваецца пра дэнацыфікацыю, як у Германіі, але там быў правал нацызму, а ў Югаславіі такога не было. „У Харватыі, Босніі і Сербіі прышчапілі дзецям такую нянавісць, што страх думаць што там будзе за пятнаццаць гадоў. Там важнае хто гаворыць, а не пра што гаворыць" (І. Чычак). І ў самой Албаніі набухае нянавісць да грэкаў і італьянцаў. „Ужо ў 1920 годзе гаварылася на Захадзе пра «дзікія балканскія плямёны» і ўсё гэта паўтарылася семдзесят гадоў пазней, быццам нічога і не змянілася" (Н. Попаў).

Многія выказаліся пра ролю рэлігіі ў канфлікце, аднадушна сцвярджаючы, што сама рэлігія не з'яўляецца яго прычынай, толькі ў канфлікт была ўведзена інструментальна, а інструменталізацыя рэлігіі гэта з'ява універсальная і не новая. Тут нават быў заўважаны пэўны прагрэс: у войнах у 17-м стагоддзі знішчаліся храмы, пазней ужо не, а „сербскі патрыярх Павел гаворыць сёння тое, пра што яшчэ ўчора не быў схільны гаварыць, а ў асаблівасці пра сваё дачыненне да таго, што здарылася" (Н. Попаў).

**Аляксандр Вярбіцкі**

P.S. 2 ліпеня праваслаўны архіепіскап Косава Арцемій і лідэр сербскага руху супраціўлення ў Косаве Трайкавіч падпісалі дагавор аб прымірэнні з лідэрам касаварскіх баевікоў Хашымам Тачы; як ён будзе ажыццяўляцца ў Албаністане — цяжка прадбачыць. Бялградскія ўлады рэзка асудзілі гэтае прымірэнне.

На мірныя перагаворы ў справе Косава, якія адбываліся ў Францыі, не былі запрошаны прадстаўнікі косаўскіх сербаў — не помніла пра іх чужая Брусель, забыў пра іх і Бялград, так як і раней пра сербаў у Крайне. Мабыць пра сербаў найбольш турбуемся тут мы. **А. В.**

# Першыя ўражанні жахлівыя

**Размова з дэканам Гайнаўскай акругі і настаяцелем прыхода Святой Тройцы ў Гайнаўцы а. Міхаілам НЕГЯРЭВІЧАМ, які разам з прадстаўнікамі Праваслаўнай царквы ў Польшчы вазіў у Югаславію грашовую дапамогу і лякарствы.**

— Завезлі мы 15 тысяч долараў (60 тыс. зл.), ад нашых вернікаў, сабраныя Праваслаўным камітэтам дапамогі ахвярам вайны ў Югаславіі (у тым ліку 2 тысячы злотых, сабраных у саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы). Усю дапамогу разам з пасланнем ад мітрапаліта Савы завезлі мы ў Патрыярхат Сербскай праваслаўнай царквы. За дапамогу і духовую падтрымку шчыра дзякаваў нам патрыярх Павел, звяртаючы ўвагу, што была гэта першая польская дапамога для сербаў, якія не заўважаюцца як ахвяры сродкамі масавай інфармацыі заходніх краін, у тым ліку і польскімі.

***— Пабываючы ў Сербіі напэўна маглі Вы ўбачыць многа таго, чаго не паказваюць па нашым тэлебачанні. Якія былі першыя ўражанні?***

— Першыя ўражанні жахлівыя. Масты на Дунаі, дарогі і дамы разбураныя. У ваколіцы Бялграда цэлы застаўся толькі адзін Панчаўскі мост. У сталіцу трэба было ехаць палову дня і толькі палявымі дарогамі, калі нармальна можна было б даехаць за гадзіны тры. У Бялградзе ашаламляе выгляд адной з галоўных вуліц, на якой разбураныя ўсе будынкі міністэрстваў. Тое, што там адбывалася, нельга сабе ўявіць, не пабываўшы там. Разбураныя манастыры і цэрквы X-XI стагоддзяў, бальніцы і многія дамы. Усе расказвалі пра самакантроль людзей. Калі бамбілі магазіны, не было грабяжоў, а людзі не запасаліся без патрэбы. У час бамбардзіровак многія людзі не хаваліся ў падвалы, а выходзілі на дамы і масты. Хаця змаганне сербаў з войскамі НАТО можна параўнаць да барацьбы мурашкі са сланом, то часцей, чым паказвалі гэта ў нас сродкі масавай інфармацыі, здараліся выпадкі, што збівалі самалёты ворагаў і тады людзі вельмі цешыліся. Усе будынкі натаўскіх пасольстваў, а ў гэтым ліку і польскага, знішчаныя, а на некаторых сценах і сцягах намаляваныя фашысцкія крыжы.

***— Вы трапілі ў Сербію хутка пасля спынення бамбёжак. Ці заўважаеце, што жыццё вяртаецца ўжо да нормы?***

— Магазіны працуюць нармальна, ёсць у іх прадукты, але ў жыхароў мала грошай. Памятаючы вялікую інфляцыю, улады не хочуць выпускаць пустых грошай. Прадпрыемствы, у асноўным, спынілі сваю працу, бо яны часткова разбураны. Праца стрымана, няма і зарплат. Хаця бензін прадаецца толькі для спецыяльных службаў, то можна купіць яго ад прыватных асоб. Сербы лічаць, што дапамога ім непатрэбная і выказваюць жаданне, каб краіны, якія вялі бамбёжку, больш ім не перашкаджалі.

***— Зараз у Косава ўвайшлі войскі НАТО і Расіі. Ці сербы вераць у хуткае вырашэнне гэтага канфлікту?***

— У Косава ўвайшлі войскі заходніх краін, але сербы вераць, што захаваная будзе незалежнасць Югаславіі, а Косава атрымае аўтаномію. Аднак цяжка будзе рэалізаваць гэтую ідэю, бо не ўсе албанцы хочуць аддаць зброю, а і няма ў іх паняцця хрысціянскага прабачэння. Сербы ўцякаюць у Сербію, бо няма канкрэтнай прапановы хуткай развязкі праблемы. Там жа многа гор, куды цяжкая тэхніка не даедзе. Калі былі перад вайной нейкія радыкальныя партыі і апазіцыя, то цяпер гэтага няма. Вайна ўсіх з'яднала, а Мілошавіч, як кіраўнік дзяржавы, стаў нацыянальным героем. Ніякая ж дзяржава не пагодзіцца з падзелам сваіх зямель, тым больш што Косава — гэта гістарычна сербскія землі. Канстытуцыя Югаславіі, адна з найбольш дэмакратычных ва ўсім свеце. Добра было б каб у нас у Польшчы было хаця 10% правоў, якімі карысталіся албанцы ў Косаве. Мелі яны свае школы, універсітэты, прэсу, тэлебачанне, а хацелі незалежнасці. Усе сербы, з якімі мы гаварылі, а асабліва патрыярх Павел свядомыя, што церпяць яны за свае грахі, за атэізацыю нацыі, але і бачаць, што спалучаюцца супраць іх цёмныя сілы з усяго свету. Каб хутчэй мірна вырашыць канфлікт, Свяшчэнны Сінод Праваслаўнай царквы, не ацэньваючы ўлад, заклікае іх падацца ў адстаўку. Людзі гатовы змагацца, калі будзе такая патрэба і гавораць, што чужыя могуць узяць Сербію, але без сербаў.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# У беларускім архіпелагу

**Гутарка з праф. АЛЬЖБЕТАЙ СМУЛКОВАЙ, кіраўніком Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку.**

***— Пані прафесар! Пайшоў другі год ад таго часу, калі ва Універсітэце ў Беластоку была створана Кафедра беларускай культуры, якую ўзначалілі менавіта Вы.***

— Фактычна наша кафедра працуе ад першага кастрычніка 1997 года, але афіцыйна мы яе адкрылі навуковай канферэнцыяй „Аблічча беларускай культуры" ў лютым 1998 года. Гэта была міжнародная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел не толькі тутэйшыя беларусы і палякі, але і беларусы з Мінска і Гродна, а нават госць з Канады, які якраз прыехаў у Варшаўскі універсітэт на Кафедру агульнага і балтыйскага мовазнаўства і ў непасрэдным навуковым кантакце са мной працаваў над доктарскай дысертацыяй на тэму развіцця беларускай нацыі.

***— Пару гадоў таму, яшчэ перад адкрыццём гэтай кафедры — яшчэ адной выспы ў беларускім архіпелагу Беласточчыны, мне давялося правесці інтэрв'ю з рэктарам Універсітэта ў Беластоку праф. Адамам Ямрузам. Тады ён сказаў, што будзе набор студэнтаў і на Кафедру беларускай культуры. Але пакуль што студэнтаў у вас няма...***

— Пакуль што студэнты, як і раней, паступаюць на аддзяленне рускай філалогіі з беларусістыкай у Інстытуце ўсходнеславянскіх моў Універсітэта ў Беластоку. У наступным годзе наш Філалагічны факультэт, пры падтрымцы рэктара, звернецца ў Міністэрства вышэйшай адукацыі з прапановай стварыць асобны напрамак беларусістыкі ва Універсітэце. Мы ўжо нават падрыхтавалі праграму заняткаў з намерам, каб гэта не было чыста філалагічнае аддзяленне, а каб можна было шырэй знаёміць студэнтаў з культуразнаўчай тэматыкай. Мы хацелі б увесці такія прадметы, як антрапалогія культуры, веды аб культуры Беларусі: выбраныя праблемы тэатралогіі, фільмазнаўства, гісторыі мастацтва, музыкалогіі, веды з гісторыі Беларусі і сучаснага грамадска-палітычнага жыцця.

Наконт гэтай праграмы мы яшчэ будзем размаўляць з калегамі з Інстытута ўсходнеславянскіх моў, каб арганізаваць і весці заняткі па беларусістыцы сумесна.

***— Нашым чытачам цікава будзе ведаць: чым жа цяпер канкрэтна займаецца кафедра?***

— Пачну ад такіх нетыповых для Універсітэта заняткаў, як **беларускія чацвяргі**. Галоўнай праблематыкай іх з'яўляюцца ўсе праявы беларускай культуры: літаратура, гісторыя, справы рэлігіі, этнаграфія, абраднасць, быў таксама аўтарскі вечар мясцовай паэткі Надзеі Артымовіч.

На гэтыя „чацвяргі" мы запрашаем выдатных дакладчыкаў з Польшчы, Беларусі, Расіі і іншых краін. Сустрэчы адбываюцца два разы ў месяц і адкрытыя яны для ўсіх жадаючых не толькі з універсітэта, але і з горада.

***— Ці не замала цікавяцца імі студэнты?***

— Студэнтаў, на жаль, прыходзіць мала. Якраз у гэты час яны маюць штотыдзень свае курсавыя заняткі. Было б пажадана, каб у час нашых сустрэч у кожны другі чацвер а пятнаццатай трыццаць не планаваць іншых абавязковых заняткаў.

Пасля дакладаў праводзіцца цікавая дыскусія. Часамі дыскутуем дапазна. Нават дзеля гэтай дыскусіі, у якой можа выказацца кожны, варта прыйсці. Слухачы з'яўляюцца як бы сааўтарамі гэтых вечароў. Усе нашы супрацоўнікі прымаюць у іх удзел.

Другое. Мы вядзем па сваіх спецыяльнасцях заняткі для студэнтаў філалагічнага і гістарычнага аддзяленняў.

***— Якія прадметы выкладаюць супрацоўнікі Вашай кафедры?***

— Гісторыю Беларусі (д-р Яўген Мірановіч), гісторыю Расіі (д-р Алег Латышонак), веды аб сучаснай Беларусі (д-р Лена Глагоўская). Я вяду гісторыю развіцця беларускай літаратурнай мовы для IV курса русістыкі з беларусістыкай і чытаю лекцыю на V курсе пра мову, культуру і тоеснасць жыхароў беларуска-польска-літоўскага пагранічча. Гэтай жа праблематыкай пагранічча займаецца са студэнтамі гісторыі д-р Анна Энгелькінг, філолаг-этнограф, якая шмат гадоў прысвяціла даследаванню беларускай народнай культуры.

Трэцяй галіной нашай працы з'яўляецца навуковая дзейнасць. Перш за ўсё тут трэба назваць праблемы развіцця нацыянальнай свядомасці беларусаў, праблемы развіцця беларускай культуры ў XIX і XX стагоддзях; справы адносін на беларуска-польска-літоўскім пагранічччы.



*На беларускім чацвяргу, прысвечаным 81-й гадавіне БНР. Злева: д-р Алег Латышонак, праф. Альжбета Смулкова і д-р Яўген Міраноўіч.*

За час існавання нашай Кафедры выйшла ўжо шмат артыкулаў і нават кнігі, у тым ліку „Mniejszości narodowe w Polsce", дзе аўтарам артыкула пра беларускую меншасць у Польшчы з'яўляецца д-р Яўген Міраноўіч, а таксама кніжка Юстыны Страчук „Język a tożsamość człowieka w warunkach społecznej wielojęzyczności" (даследы вялікся на польска-літоўска-беларускім пагранічччы). Гэта была магістэрская праца, я кіравала ёю з моваазнаўчага боку, а праф. Анна Задрожынская — з этналагічнага. Ёсць і трэцяя кніжка ў маёй апрацоўцы, якая непасрэдна не датычыць Беларусі, а Украіны, але праблемы пагранічча падобныя.

***— Ежы Гедройц, рэдактар парыжскай „Культуры", ураджэнец Беларусі, шмат зрабіў дзеля таго, каб Кафедра беларускай культуры была створана ў Беластоку. Ці цяпер ён кантактуецца з кафедрай?***

— Я асабіста сустракалася з Ежы Гедройцам у Парыжы з нагоды ўручэння яму звання доктара „Honoris causa" Беластоцкага універсітэта. Ён атрымаў таксама такі ж доктарат у Варшаўскім універсітэце. Пры гэткіх нагодах ён публічна выступаў і гаварыў аб кафедры, звяртаў увагу на патрэбу даследаванняў у галіне польска-беларускіх культурных адносін.

***— Як вы адчуваеце сябе на гэтай пасадзе пасля пасады надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэчы Паспалітай у Беларусі?***

— Гэту працу я лічу ў нейкай ступені прадаўжэннем папярэдняй: я займаюся надалей беларуска-польскімі справамі. Перыяд пасольскай працы значна пашырыў мае веды пра Беларусь. Цяпер я маю сатысфакцыю з добрага рабочага калектыву, з якім мы адчуваем сябе людзьмі, што хочуць шырэй паказаць свету беларускую культуру.

***— За што і змагаўся Ежы Гедройц! Сардэчна дзякую за размову і да сустрэчы на беларускім чацвяргу ў палове кастрычніка.***

Гутарыла Ада Чачуга

*Фота аўтара*

# Барскі ў Беластоку



*Злева: Алесь Барскі, Тэрэса Занеўская і Чэслаў Сэнюх.*

Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі) амаль паўвеку чакаў польскага перакладу сваіх лірычных вершаў (42 гады ад дня дэбюту). І вось, стараннем нястомнай прафесар Тэрэсы Занеўскай, выйшаў нядаўна з друку знакаміты зборнік „Nostalgie" у перакладзе Чэслава Сэнюха. Прэзентацыя выдання сталася значным культурным мерапрыемствам, якое 29 чэрвеня г.г. адбылося ў беластоцкай ратушы. На сустрэчу тлумна з'явіліся сябры паэта, паклоннікі ягонай творчасці, літаратары, працаўнікі культурных устаноў. Адчувалася, што Беласток засумаваў па Алесю Барскім.

— Паэт ёсць тут асобай шырокавядомай і прадстаўляць яго было б нетактоўнасцю, — прывітала беларускага літаратара прафесар Занеўская, аўтарка ўступнага слова да „Nostalgii".

— У Барскага сустракаем паўнакроўны свет прыроды. Пушчанскія стыхійныя вобразы, іх свежасць і сіла напамінаюць Якуба Коласа і яго „Новую зямлю", — адзначыў перакладчык Чэслаў Сэнюх.

Шкада толькі, што зборнік прадстаўляе адно польскі варыянт лірычных вершаў. Бо калі б памясціць там яшчэ беларускі арыгінал, чытач меў бы паўнакроўную асалоду. Дацаніў бы таксама вялікае мастацтва перакладчыка, які без фальшу ўлавіў сутнасць і эстэтыку вершаў Барскага.

Паэт, у сваю чаргу, паясніў прычыну адсутнасці ранейшага зацікаўлення польскіх перакладчыкаў яго творчасцю.

— Я сам ніколі не нахабнічаў і не прасіў, каб тлумачылі мае вершы. Ведаў, што калі яны вартасныя, дык дачакаюцца належнай увагі.

Успомніў таксама сваю першую сустрэчу з Беластокам. Было гэта ў 1946 годзе, калі горад ляжаў зруйнаваны вайной. Алесь Барскі меў тады ў кішэні першую зарплату (працаваў у Бандарах берагавым на рацэ, дзе прымаў клёцы). За тыя грошы купіў сабе новы касцюм і кніжку Аляксея Талстога „Блуканне па пакутах".

— І так пачалася мая дарога паэта — блуканне па пакутах. Праз усё жыццё не мог забыць я сваёй роднай зямлі.

Настальгія па свеце дзяцінства, па наднарваўскіх краявідах, па стыхіі Белавежскай пушчы была стымулам ягонай паэзіі. І сёння паэт наведвае родныя Бандары, дзе мае 12 гектараў зямлі.

— Бо не сцярпеў бы, каб на маім панадворку хадзілі чужыя ногі.

Крытычна аднёсся ён да сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь (прысутны быў консул) і панавання Аляксандра Лукашэнкі.

Настрой мерапрыемства выдатна ўзбагацілі дэкламацыі маладога паэта Пятра Новіка, як сам адзначыў, звязанага з зямлёй і вёскай. А Марк Яраш падрыхтаваў музычныя аранжыроўкі да перакладзеных вершаў. Шкада толькі, што не прагучэла жывое беларускае слова. І дэдыкаваныя паэту украінскія песні няведама чаму спявак палічыў беларускімі. Тым не менш публіка была задаволена сустрэчай.

Ганна Кандрацюк

*Фота аўтара*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Кастусь Кірэенка

## Наш бор

То ціхутка загамоніць,
То задумліва зазвоніць,
То ўрачыста запяе
Песні светлыя свае.
То застогне грозна-глуха,
Калі бура наляціць,
Ажно сэрца цяжкай скрухай
І жальбою затрымціць.
А пасля — спакойны зноўку,
Быццам цёплая дамоўка,
Ад світанку і да зор...
І сустрэне, і прывеціць:
„Да мяне прыходзьце, дзеці!.. —
Вось які наш родны бор!


*Гарлачыкі ў Арбарэтум — батанічным парку ва ўрочышчы Копная Гара.*

# Пікнік у Копнай Гары

За сто ўдзельнікаў: дзеткі і бацькі з беларускага прадшколля ў Беластоку, навучэнцы Пачатковых школ нумар 4 і 11 ды настаўнікі на ўлонні прыроды адсвяткавалі заканчэнне навучальнага года. Паездка атрымалася ў першы дзень канікул 26 чэрвеня г.г. Гэтым разам арганізатары падарожжа **Пятро Юшчук** і **Яўген Альховік** прапанавалі наведаць старажытны Супрасль і наваколле.

Пра гісторыю і сучаснасць Дабравешчанскага Супрасльскага манастыра расказаў айцец Іаў. Удзельнікі пабывалі ў новапабудаванай царкве, маліліся ля іконы Супрасльскай Божай Маці ды аглядалі нешматлікія помнікі мінуўшчыны ў тамашнім музеі.

Пасля Супрасля завіталі ў Арбарэтум — батанічны парк ва ўрочышчы Копная Гара. Дзеткі любаваліся не толькі разнавіднымі раслінамі ды дрэвамі. Якраз паказаліся суніцы. Спадар Яўген Альховік займальна расказаў пра жыхароў навакольных пасёлкаў, пра магілы паўстанцаў 1863 года, пра скарбы закапаныя над ракой Сакалдою. Наш экскурсавод родам з Вароніч, лясной вёсачкі, што ля Арбарэтум. Многія гадзіны прайшлі ва ўрочышчы Копная Гара, дзе арганізатары наладзілі пікнік. У цяні магутных дрэў Кнышынскай пушчы ўдзельнікі адпачывалі, пяклі каўбаскі ля вогнішча, спявалі ды любаваліся свежай, сакавітай прыродай. І тут былі таксама суніцы...

Дашкольнікі, выпускнікі нулявога класа, на развітанне атрымалі граматы. Большасць з 15-ці выпускнікоў пойдзе ў ПШ н-р 4, дзе далей будзе (з першага класа) вывучаць родную мову. Граматы і кніжныя ўзнагароды атрымалі таксама навучэнцы ПШ н-р 11. Віктар Швед, які разам з сям'ёй пабываў на пікніку, падпісаў сваім маладым чытачам кніжку „Вершы Натальцы".

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*


*Па Супрасльскім манастыры абвёў айцец Іаў.*


*Дзеткі з ПШ н-р 11 і Віктар Швед.*

Алесь Якімовіч

# Лянота

**Частка 1**

Жыў на свеце хлопчык Алік. Не вялікі і не маленькі. Так сабе, сярэдненькі. З кірпатым носікам, абсыпаным рабаціннем, з упартым чубам, які не хацеў прычэсвацца, са смяшынкамі ў хітрых вачах.

Любіў той хлопчык ездзіць на трамваях і аўтобусах — з білетам і без білета... Любіў кіно — добрае і дрэннае. Любіў цукеркі і марожанае. Любіў свае самаробныя шаблі, кінжалы і пісталеты.

Вось, здаецца, і ўсё, што ён любіў.

А чаго не любіў? Усяго іншага. Нават памыцца і прычасацца як след ленаваўся. Так нямытым ды лахматым і хадзіў у свой чацвёрты „Б" клас.

Маці і крычала на яго, і грозіла, і прасіла:

— Сядзь ты, Алік, за кніжку. У цябе ж адны двойкі ды тройкі.

— Ат, не хочацца.

— Падмяці, Алік, пакой. Глядзі вунь як насмеціў, майструючы свае пісталеты.

— Ат, не хочацца.

— Схадзі, Алік, у магазін па хлеб.

— Ат, не хочацца...

— Ах ты, лянота мая горкая! — уздыхала маці і сама падмятала пакой, хадзіла па хлеб і рабіла ўсё, што трэба рабіць дома.

Настаўніца Аліка дакарала, кожны дзень пра яго ў дзённіку скаргі пісала. Важатая на зборах атрада сарамаціла. А яму хоць бы што. Толькі большая злосць на ўсіх разбірала.

Аднойчы Алік позна варочаўся дахаты — загуляўся з сябрамі ў вайну.

# Экскурсія ў Белавежскую пушчу



Вузкакалейкай у Тапіла.

У Міжнародны дзень дзіцяці (1 чэрвеня) наш клас ездзіў у Белавежскую пушчу. У Гайнаўку прыехалі мы аўтобусам. Далей паехалі чыгункай цераз Белавежскую пушчу, дзе знаходзіцца вёска Тапіла. Там мы распалілі вогнішча і пяклі каўбаскі. Гулялі ў розныя гульні.

Потым дыдактычнай сцежкай пайшлі на шпацыр па пушчы і слухалі аповед лесніка.

Пасля пайшлі на чыгунку і вярнуліся ў Гайнаўку. А далей аўтобусам прыехалі ў Бельск-Падляшскі. Так закончыўся гэты дзень.

Экскурсія вельмі мне падабалася. Я хацела б яшчэ раз падацца ў такое падарожжа.

**Эдыта ХАМЮК, кл. III „д”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Калі мы ехалі вузкакалейкай я ўбачыла, як па пушчы бег заяц. Над возерам была малая рыбацкая хатка і вялікі драўляны мост. На кладцы сяброўка зрабіла мне здымак. Думаю, што прыемна было б паехаць яшчэ раз у Тапіла.

**Юстына ВАЙШКОВІЧ, кл. III „ц”**

Едучы мы глядзелі на старажытную, магутную Белавежскую пушчу. Пасля ўсе вучні пайшлі ў вёску Тапіла. Там мы пяклі каўбаскі на вогнішчы. Калі ўсе паелі, тады пайшлі экалагічнай сцежкай. Сцежка вяла вакол вялізнага заліва. Мяне зацікавіла, чаму вада ў заліве была карычневая аж чырвоная. Ляснік расказаў, што калісьці тапілі там камлі дрэў — соснаў і елак. Ад кары дрэў вада змяніла свой колер.

Я хацела б яшчэ раз паехаць туды з маёй сям'ёй паслухаць як спяваюць птушкі, як шуміць вецер у голлі пушчанскіх дрэў.

**Наталля ВАСІЛЮК, кл. III „ц”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Сястра Агнешка

Мая сям'я гэта мама, тата, сястра Агнешка і я. Агнешцы 17 гадоў, яна вучыцца ў ліцэі ў другім класе. Яна бландзінка з блакітнымі вачыма. Я вельмі люблю сястру за тое, што яна добрая, вясёлая і заўсёды дапамагае іншым. Агнешка мае добры характар. Яе зацікаўленні — танец, плаванне і кніжкі. Агнешка любіць біялогію. Я хацеў бы, каб яна ў будучыні была лекарам. Мне падабаецца тое, што Агнешка асуджае людзей па іх характары. Мне вельмі добра сябраваць з Агнешкай.

**Павел АНТАНЮК, кл. III „ц”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Чуе — нехта енчыць у цёмным закутку двара.

Алік спыніўся.

— Хто там? — пытаецца.

— Я — Лянота, — пачуўся тонкі піскліва галасок.

— А што ты тут робіш?

— Нічога. Мяне выкінулі.

— Хто?

— Валерка з дзесятай школы. Не хоча больш дружыць са мною. Вазьмі ты мяне.

— А дзе я цябе падзену? Маці мне не дазваляе цягаць у кватэру рознае ламачча.

— Я — не ламачча! — пакрыўдзілася Лянота. — Я табе памагаць буду.

— Якая ад цябе помач?

— А якую хочаш?

— Вучыцца за мяне будзеш?

— Не. Вучыцца не хачу. Я — Лянота.

— Пасцель засцілаць, пакой падмятаць?

— Не, — запішчала Лянота. — Я не люблю ніякай работы.

Усміхнуўся Алік і кажа:

— Выходзіць, ты — мая сястра. Мама мяне таксама лянотай заве.

— Але ж, твая сястра, — падхапіла сапраўдная Лянота. — Толькі я — не простая сястра, а — чароўная! Не пакідай мяне ў бядзе, брат мой! Я буду дружыць з табою. На ўсіх тваіх ворагаў дрымоту ды ляноту наганяць буду.

— О, гэта добра! — згадзіўся Алік. — А дзе ж я цябе трымаць буду?

— Дзе хочаш. Я — маленькая. Шмат месца не займу. Пасадзі мяне ў якую-небудзь скрыначку, хоць у пенал, і я там буду жыць. Карміць і паіць мяне не трэба. А калі табе спатрэбіцца мая дапамога, вазьмі скрыначку ў рукі і скажы: „Лянота, Лянота, нагані на таго і таго дрымоту”. І ўсё будзе зроблена. Толькі, глядзі, не адкрывай скрыначкі, я не люблю святла.

Схапіў узрадаваны Алік сваю новую сяброўку, прынёс дахаты і сунуў у пенал.

*(працяг будзе)*

# Успамінаюцца мне дні

*(успаміны Хведара Ільяшэвіча пра скаўтаў Віленскай беларускай гімназіі)*

**Частка 4**

Пасля лекцыяў была вызначана першая зборка ў салі. Мы не маглі дачакацца званка і канца лекцыяў. І як толькі скончыліся лекцыі, усе, як віхор паімчаліся ў вялікую салю. Тут ужо было поўна вучняў. Было весела, кожны чакаў нечага нязвычайнага, што адрознівалася ад школьнага шэрага жыцця...

Хутка мы стаялі ў двух шэрагах уздоўж усяе салі. Кожны стараўся стаяць як жаўнер. Камандзе вучылі вучні старэйшых клясаў — беларускія вайскоўцы. Нас падзялілі на дружыны, вызначылі дружыновых і ўжо пасля першай зборкі ўсе выйшлі на школьны пляц. Нас было шмат і мы чулі, якая вялікая сіла ў нас. Кожны стараўся ісці ў нагу, бо з вокнаў трэцяга паверху выглядалі цікавыя твары вучняў Праваслаўнае Духаўнае Сэмінарыі. Так пачаў сваю працу беларускі скаўтынг у Віленскай беларускай гімназіі.

Мы хутка вывучылі скаўцкае права, вязалі вузлы, хадзілі на экскурсыі, ладзілі вечары, збіраліся. Уся праца так падыходзіла да нашых дзіцячых імкненняў, што мы аддаваліся ёй ўсёй душой і целам.

Прайшлі гады, але пасеянае ў нашых душах не засталося. Яно знайшло новыя шляхі для свайго росту. І калі, бывала, даводзілася мне прыпадкова спатыкацца з былымі школьнымі сябрамі ў цягніку, на вуліцы, на якім небудзь сходзе, мы заўсёды з асаблівым, часта дзіцячым захапленнем, успаміналі нашыя скаўцкія часы. У кожным з нас моцна трымалася грамадзкая настрояннасць. Кожны з нас заўсёды горача адгукаўся на ўсялякі грамадзкі пачын і сам часта быў зачыншчыкам працы, а галоўнае, кожны любіў аддана сваю Бацькаўшчыну. Гэта ўсё быў уплыў грамадзкае школы, якую прайшоў кожны з нас у скаўтынгу. Вось чаму мне цяпер часта хочацца шагаць разам з маладымі скаўтамі, вось чаму і я чуюся маладым, калі пабачу зялёныя гальштукі. Мне здаецца тады, што гэта паднялася маладая беларуская рунь. І ідзе яна ў нашу будучыню, светлую, ясную, як іх юнацкія сны. Я таксама быў скаўтам і хачу калыхацца ў гэтай руні — нашай надзеі.

**Стары Скаўт**

*(стыль і арфаграфія аўтара захаваны)*

## Каты-музыкі

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Міры Лукшы*




Была трубка у ката,
У ката стракатага,
Воркута вусатага,
Ў коця паласатага. Ага!
Былі бомы, тарабан
І гармонік, і баян.
Ну, а белы кот Траян
Меў жалейку і арган. Ага!

Рыжык — скрыпку, гуслі, звон.
Рыжык — проста чэмпіён!
Рыжык вые на ўвесь дом,
Галасней за грамафон! Ага!
Выла трубка у ката,
У ката лахматага!
Разбалелась галава
Ад джазу стракатага! Ага!

# Польска-беларуская крыжаванка № 29

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Sto / Zalew | | ► | ▼ | | Wandal | ▼ |
| Wafel | ▼ | Funt | | Sens | 📖 | |
| ► | | ▼ | | | 📖 | |
| Łuk ► | | | ▼ | | Ser | |
| Indygo / Autor ► | | | | | | |
| ► | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 25:** Школа, лужынка, жук, зона, рад, атам, вуж, лыка, шкло, каса, акот, грам.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Уршуля Гегель** з Гарадка і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага. **Віншуем!**

# VII Міжнародная канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці"

***(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

У другой палове дня, пасля абедзеннага перапынку, увага даследчыкаў літаратуры, культуры і мовы засяроджвалася на творчасці паасобных пісьменнікаў.

Праф. Алег Лойка (БДУ, Мінск) выступіў з тэмай *Беларусь і польская паэзія XX ст.* і пазнаёміў прысутных з вершамі польскіх паэтаў, якія праяўлялі любоў і апісвалі прыгажосць беларускай зямлі. Канд. навук Уладзімір Мархель закрануў матывы радзімы ў санетах Адама Міцкевіча і прадставіў творчасць вялікага польскага паэта і сына беларускай зямлі як вынік шляху да ўзаемнасці. Вольга Канопліч (Універсітэт імя П. М. Машэрава, Віцебск) гаварыла пра беларускамоўную і польскамоўную творчасць Яна Баршчэўскага. І яна таксама адзначыла, што Ян Баршчэўскі запачаткаваў той працэс шляху да ўзаемнасці, на якім мы сёння знаходзімся. У чарговай тэме *Зоф'я Тшашчкоўская: жыццё і творчасць у беларуска-польскім літаратурным асяроддзі* канд. навук Уладзімір Казбярук (Інстытут літаратуры імя Я. Купалы НАНБ) расказваў пра двухмоўнасць асяроддзя ў XIX ст., калі пад уплывам У. Сыракомлі фармавалася творчасць і талент іншых пісьменнікаў, м.ін. З. Тшашчкоўскай. Польскія „сенсацыйныя" раманы Сяргея Пясецкага прадставіў Пётр Рагойша (БДУ, Мінск). Адзначыў ён папулярнасць С. Пясецкага ў іншых народаў. Творы яго выдаваліся на 16 мовах, апрача беларускай. Але нарэшце С. Пясецкі дачакаўся перакладаў і на беларускую мову, дзякуючы чаму вяртаецца ў Беларусь, на зямлю, якую апісаў у сваіх раманах і на якой нарадзіўся. Намаганні Яна і Станіслава Станкевічаў у захаванні беларускай мовы на эміграцыі ды ачышчэнні яе ад русізмаў і паланізмаў былі прадстаўлены ў дакладзе пад назовам *Клопат „Бацькаўшчыны" пра чысціню беларускае мовы* (Ніна Баршчэўская, КБФ, Варшава). Архетыпы беларусаў у творчасці Сакрата Яновіча прадставіла Ірына Саматой (Універсітэт імя П. М. Машэрава, Віцебск), падкрэсліваючы, што галоўны герой С. Яновіча выступае як прадстаўнік нацыі ў канкрэтным асяроддзі. Праф. Аляксандр Баршчэўскі (КБФ, Варшава) даследаваў малыя празаічныя формы ў творчасці „белавежца" Вінцука Склубоўскага, а ў сваю чаргу пісьменнік і грамадскі дзеяч Ян Жамойцін (Варшава) выступіў з дакладам пра беларускую гістарычную, культурную і літаратурную спадчыну ў даследаваннях Аляксандра Баршчэўскага.

Канд. навук Лідзія Кулажанка (Цэнтр імя Ф. Скарыны) занялася сучасным станам і праблемамі беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Беларуска-польскае суседства сёння — кантакты і кантрасты прадставіў ды ацаніў канд. навук Мечыслаў Часноўскі (БДУ, Мінск), засяроджваючы сваю ўвагу і прысутных на адносінах на дзяржаўным этапе, якія, на жаль, сёння не задавальняючыя. У гадах 1991-1994 назіралася ўзаемараспазнанне, а ў 1996 г. стасункі рэзка пагоршыліся ў выніку такіх падзеяў, як, напрыклад, Канстытуцыйны рэферэндум 1996 г. у Беларусі ці ўступленне Польшчы ў НАТО. Падыход Польшчы да Беларусі становіцца залежным ад некалькіх істотных прынцыпаў: сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, наяўнасці рынкавых пераўтварэнняў і характару кантактаў Беларусі з Расіяй. Беларусь у сваю чаргу прыглядаецца да дзейнасці на яе тэрыторыі польскага кліру. Далучэнне Польшчы да заходнееўрапейскіх структур прычыняецца да ўшчыльнення польска-беларускай мяжы. Над Бугам паяўляецца цень жалезнай заслоны.

Гэтак жа інтэнсіўны быў і другі дзень Міжнароднай канферэнцыі *Шлях да ўзаемнасці*.

*Роля рыма-каталіцтва ў беларуска-польскім узаемадзеянні на сучасным этапе* сталася першай тэмай абмеркавання 16 чэрвеня. Любоў Уладыкоўская-Канаплянік (Цэнтр імя Ф. Скарыны) адзначыла, што каталіцтва яднае беларускі і польскі народы, і праявіла спадзяванне, што Касцёл зразумее сітуацыю ў Беларусі і прычыніцца да абуджэння беларускай нацыянальнай тоеснасці, дзякуючы чаму знікне атаясамліванне этнасу з канфесіяй і католік перастане адразу ўспрымацца як паляк.

Праф. Адам Мальдзіс (Цэнтр імя Ф. Скарыны) прыгадаў тыя канферэнцыі, на якіх закраналіся польска-беларускія сувязі і прадставіў сучасны стан кантактаў, у якіх вялікую ролю адыгрывае Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны. Развіваць беларусазнаўчую дзейнасць выдатна дапамагае Ежы Гедройц і Польскі інстытут у Мінску. Адам Мальдзіс з крыўдай адзначыў, што палітычная сітуацыя ў Беларусі часта пераносіцца на навуковых супрацоўнікаў, калі яны наведваюць Польшчу. Прафесар падкрэсліў, што неабходна стварыць сумесны банк бібліяграфічнай інфармацыі і з дапамогай польскіх навукоўцаў выдаць том *Беларусы ў памежных краінах*.

Беларуска-польскім сувязям у галіне навук пра зямлю прысвяціў сваё выступленне праф. Валерый Ярмоленка (БДУ, Мінск), які з удзячнасцю выказаўся пра польскіх вучоных за тое, што захавалі яны імёны і прозвішчы прыродазнаўцаў — выхадцаў з беларускай зямлі, а таксама іх дасягненні. На польска-беларускія карані Манюшкаў — роду чатырох гербаў: Далуга, Вадзьвіч, Любіч і Крыўда — звярнуў увагу Леанід Акаловіч у дакладзе *Манюшкі як беларускі і польскі шляхецкі род*. Алег Сувалаў (Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў) прадставіў уклад польскіх вучоных XIX ст. у вывучэнне этнагенезу беларусаў, звяртаючы ўвагу на тое, што збіральнікі, выхаваныя ў польскай традыцыі, запісвалі тэксты ў арыгінале, калі расійскія даследчыкі перакладалі на тагачасную рускую мову, у выніку чаго гэтыя тэксты далучаліся да здабыткаў расійскай творчасці, а не беларускай. І таму сёння вялікую каштоўнасць прадстаўляюць матэрыялы сабраныя даследчыкамі заходняга накірунку. Дарыюш Тарасюк (Універсітэт імя М. Кюры-Складоўскай, Люблін) расказаў пра культурна-грамадскую дзейнасць палякаў у Мінску ў 1905-1918 гадах.

Былі таксама тэмы прысвечаныя: спецыфіцы беларускіх і польскіх прыказак аб радзіме (канд. навук Эдуард Дубянецкі, Цэнтр імя Ф. Скарыны), жаночым міфічным істотам у польскім і беларускім фальклоры (праф. Анна Возьняк, Каталіцкі Люблінскі універсітэт), беларускаму і польскаму народнаму календару (канд. навук Алесь Лозка, Белдзяржпедуніверсітэт імя М. Танка) ды перспектывам даследавання фальклору рэгіёна Белавежскай пушчы (канд. навук Васіль Ліцьвінка, БДУ, Мінск). Даследаванне Белавежскай пушчы будзе адначасова праводзіцца на беларускім і польскім баках. У гэты праект уключаецца Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

У часе дыскусіі навукоўцы адзначылі, што важная не толькі дзяржаўная палітыка, але таксама сувязі паміж звычайнымі людзьмі, што трэба звяртаць увагу на практычнае выкарыстанне беларускай мовы і развіваць любоў да яе, трэба „расчышчаць" шлях да ўзаемнасці, супольнымі намаганнямі вывучаць польска-беларускія сувязі, спалучаючы пры гэтым розныя навукі: гістарычныя, сацыялагічныя і лінгвістычныя. Праф. А. Баршчэўскі запрасіў да прыняцця ўдзелу ў наступных гадах у якасці суарганізатараў Польскае навуковае таварыства ў Беларусі ды Кафедру беларускай літаратуры і Кафедру беларускай мовы ў БДУ. Праф. Адам Мальдзіс папрасіў удзельнікаў Канферэнцыі прыслаць даклады дзеля публікацыі іх у *Кантактах і дыялогах*, у спецыяльным томе *Беларусіка-Albaruthenica* або ў томе *Acta Albaruthenica* і заахвоціў прысутных працягнуць дыскусію яшчэ сёлета, у другой палове верасня, у час III Міжнароднага кангрэса беларусістаў у Мінску пад назовам *Беларусь і славянскі свет, Беларусь і неславянскія краіны — узаемаўзбагачэнне культур*.

Польска-беларускія сувязі былі гарачыя і шчырыя як у часе навуковых дыскусій, так і за багата застаўленым сталом.

**Ніна Баршчэўская**

# Лета ў тэатры

Гучным уваходам на сцэну спектакля паводле „Малога прынца" Антуана дэ Сент-Экзюперы закончыў тэатральны сезон тэатр імя Аляксандра Вянгеркі. Было ўсяго шэсць прадстаўленняў, а апошнія два спектаклі — 26 і 27 чэрвеня — артысты ігралі пры паўнюсенькай зале, і, што неабходна падкрэсліць, білеты набывалі не арганізаваныя групы, а індывідуальныя асобы. Такога яшчэ не было, каб у суботу і нядзелю частка людзей адышла ад касы без білетаў.

Спектакль, рэжысёрам якога з'яўляецца Тамаш Гынэк, у многім пераклікаецца з біяграфічнымі момантамі яго аўтара, французскага пісьменніка Антуана дэ Сент-Экзюперы, арыстакрата, які ў 1937 годзе ў рэпартажах з франтоў Іспаніі выкрываў фашызм. Пісьменнік загінуў у 1944 годзе ў час разведвальнага палёту над Корсікай, калі ваяваў з гітлераўцамі.

„Малы прынц" быў напісаны ў 1943 годзе, на год да смерці паэта. Выступае тут пілот, які як бы сімвалізуе малога прынца. Шмат тут аповедаў пра дружбу, смерць і каханне. Поўна тут супярэчнасцей і цяжка разабрацца, дзе тут дзіця, а дзе дарослы. Так пабудаваны свет. Ясна адно, што ў кожным з нас сядзіць частка дзіцяці, так як і дзіця ўмее разважаць па-даросламу.

Уражвае сцэнаграфія спектакля (сцэнограф — Бэата Нычай). Незвычайная, хаця скромная ў сродках выразу. Ноч. Міжпланетная прастора. У паветры (падвешаныя) малы прынц і пілот вядуць размовы. Сапраўды, як сцвердзіў Тамаш Гынэк, „Малы прынц" гэта магічная аповесць, і думаю, што ў новым сезоне гледачоў не забракне.

Пацішэла ў тэатры. Усе акцёры ў водпуску ад 1 ліпеня. У тэатры прадаўжаецца капітальны рамонт. У мінулым годзе была адрамантавана вялікая глядзельная зала, вестыбюль і фае, а таксама пару туалетаў. Самае галоўнае: памянялі крэслы ў вялікай глядзельнай зале. Цяпер пажарная ахова не можа мець прэтэнзій: адлегласць паміж радамі адпавядае іх норме. Ці будуць яны зручныя для гледача — пакажа час (у знаёмай, якую я запрасіла ў тэатр, разбалелася нага, а пасля яшчэ хтосьці адчуў нешта падобнае).

Рамонт у тэатры гэта вялікая справа. Без яго тэатр маглі б проста зачыніць. Вялікая справа — вялікія грошы. І датацыі, і грошы, выпрацаваныя дзякуючы спектаклям, усе яны ідуць на аднаўленне будынка тэатра. Цяпер рамантуецца малая сцэна з цэлым заплеччам.



*Анджэй Кароляк, дырэктар тэатра імя А. Вянгеркі: „Па! Па!"*

Летам тэатр робіць перапынак і не выступае. Яшчэ да канца чэрвеня працягваліся рэпетыцыі спектакля-кабарэ „Бой" (на падставе тэкстаў Тадэвуша Боя-Жаленскага), прэм'ера якога мае адбыцца ў новым тэатральным сезоне 11 верасня 1999 г. Спектакль рэжысіруе Вальдэмар Смігасевіч, літаратурны кансультант тэатра імя А. Вянгеркі.

У планах на новы сезон „Жалезная канструкцыя" Мацея Вайтышкі аб тым, як ашуканцы хацелі прадаць палац Браніцкіх (спектакль адаптаваў да беластоцкіх варункаў і рэжысіруе Вальдэмар Смігасевіч). А таксама: „Балядына" Юльюша Славацкага і „Аліцыя ў краіне цудаў" Луізa Кароля.

У новым сезоне надалей будуць ставіцца спектаклі „Малы прынц" Антуана дэ Сент-Экзюперы, „Помста" Аляксандра Фрэдры, „Івона, бургундская прынцэса" Вітальда Гамбровіча і іншыя. Надалей будзе ставіцца „Антыгона" Сафокла ў Агароднічках (у пленэры).

Вялікія змены адбудуцца ў трупе тэатра. Прыйдуць маладыя, здольныя людзі, ды не толькі з Беластока. Яны бачаць у гэтым сэнс, бо заўважаюць змены: у гэтым тэатры яны могуць паказацца, сыграць ролю, цікавую для маладога акцёра.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Па кім плача звон?



На мяжы Зэльвенскага і Слонімскага раёнаў стаіць славуты помнік Беларусі — Сынковіцкая крэпасць-царква. Яна была пабудавана больш за 500 гадоў назад. Адны гісторыкі сцвярджаюць, што Сынковіцкая царква была ўзведзена пасля разбурэння ханам Койданам Слоніма ў 1240 годзе. Другія лічаць, што храм у Сынковічах быў пабудаваны па загаду князя Вітаўта ў знак удзячнасці зямлі Слонімскай. Але як бы там не было, галоўнае, што гэты унікальны архітэктурны помнік беларускай даўніны захаваўся да сённяшніх дзён.

Шмат бачылі і перажылі на сваім вяку байніцы і сцены гэтага храма. Сотні сцягоў і ўладаў мяняліся, але ён выстаяў, не скарыўся. Няйцяжэй Сынковіцкай царкве было пры савецкай уладзе. Храм быў аддадзены мясцоваму саўгасу (цяпер калгас „Рассвет" Зэльвенскага раёна). Там складвалі лён, садавіну і агародніну. Паціху храм рушыўся, знішчаўся, хаця на яго сцяне даўно прымацавана шыльда, дзе напісана, што „помнік ахоўваецца дзяржавай".

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе пачалося аднаўленне храма ў Сынковічах. У 1993 годзе ён быў ачышчаны ад смецця і бруду, адрамантаваны і асвечаны мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам. Цяпер Сынковіцкая царква на кожнае свята кліча да сябе праваслаўных вернікаў. Але шмат яшчэ трэба фінансаў і працы, каб цалкам адначаць яе і вярнуць тое, што было з гадамі знішчана і страчана. Знік з Сынковіцкай царквы звон. А можа знік той, на якім быў надпіс „Anno Domini 1460"? Хто яго ведае. Але той адзіны звон, які месціўся ў званіцы Сынковіцкага храма, быў зняты і адвезены ў Мінск. Гэты факт пацвердзіў і настаяцель царквы айцец Леанід. Паўстае пытанне: навошта знялі звон са славутага помніка, які ахоўваецца дзяржавай? За пытаннем вымалёўваецца і адказ.




У канцы 60-х гадоў пачалося будаўніцтва мемарыяльнага архітэктурна-скульптурнага ансамбля „Хатынь", што ў 54 км ад Мінска. Па загаду Машэрава з усёй Беларусі на Мінскі радыятарны завод звозіліся старыя званы з храмаў для Хатыні. Сюды, відаць, трапіў і звон з Сынковіцкай царквы. Больш падрабязна я папрасіў расказаць пра гэта першага дырэктара мемарыяльнага комплексу „Хатынь" Анатоля Белага.

— Я, сапраўды, працаваў першым дырэктарам „Хатыні", — пачаў размову Анатоль Яфімавіч. — Калі ўзнікла патрэба ў званах для комплексу, нейкі „руплівец" прапанаваў адліваць іх са старых званоў. Іх пачалі звозіць на радыятарны завод, дзе званы калолі. За аснову для адліву быў выбраны адзін старажытны звон з выдатнай формай, гучаннем, а галоўнае, ён меў патрэбныя памеры. Вучоныя ўзяліся распрацоўваць адмысловую электронную сістэму падачы гучання. Гэты звон цяпер вісіць на мемарыяльным зрубе хаты Камінскіх, каля гумна, дзе карнікі спалілі людзей. Гучанне яго адметнае, і яно выдзяляецца сваёй чысцінёй і ўрачыстасцю гуку.

Па словах Анатоля Белага, хаця званы для Хатыні адлівалі з лепшых царкоўных званоў, але дасягнуць добрага гучання нікому не ўдалося. Усе разлічвалі, што з царкоўнай бронзы будзе гук адмысловы, але забыліся пра адну акалічнасць — пра ўгар металу, які дасягае 7%. Але металы-прысадкі, волава і іншыя, робяць угар значна большым за 7%. Вось гэта і зрабіла адлітыя наноў званы з адмысловага металу і бясцэннага народнага скарбу глухімі па гучанню. Хто быў ініцыятарам таго, каб звозіць званы з храмаў Беларусі і пераплаўлць іх для Хатыні, я не ведаю. Бо ўсё тады рабілася па загаду ЦК КПБ і асабіста Пятра Машэрава. Ён цалкам курыраваў гэты мемарыяльны комплекс. Магчыма, ідэю падала тая брыгада майстроў, якая ўзялася распрацоўваць рытмічнасць і музычную зададзенасць гучання званоў Хатыні. Для іх было пабудавана спецыяльнае памяшканне. Там пастаянна дзяжурыў адзін чалавек. Удары молата па звону ажыццяўляліся па сігналу запраграміраванага пульта. Відаць, там і быў знішчаны звон з Сынковіцкай царквы...

Са слоў Анатоля Белага я даведаўся, што на заводзе ў той час прысутнічаў скульптар Аляксандр Шатэрнік. Па тэлефоне звязаўся з Аляксандрам. Ён сказаў, што „ў той час вельмі шмат пабілі званоў, дабіваючыся ад іх гучання. Але званы маўчалі. Сюды іх звозілі з усёй Беларусі, відаць, быў там звон і з Сынковіч".

Зусім іншыя думкі выказаў мне на гэты конт адзін з архітэктараў Хатыні, Леанід Левін:

— Для мемарыяльнага комплексу „Хатынь" было выліта 26 званоў. Усе аднолькавага памеру. Адлівалі́ся званы з формы звону, які знайшлі каля адной старой і разваленай царквы.

Але дзе знайшлі, спадар Левін не памятае. Шкада...

Званы на Беларусі былі вядомы яшчэ з XI стагоддзя. Калі званы, напрыклад, здымалі з гарадской ратушы, што лічылася выключнай з'явай, гэта было знакам пакарання горада, пазбаўлення права на самакіраванне. За што была пакарана Сынковіцкая царква, а таксама сотні іншых храмаў Беларусі? Няўжо дзеля Хатыні? Відаць, так. Дык па кім плача звон?..

**Сяргей Чыгрын**

**Ні адзін мучанік ГУЛАГа не можа быць забыты!**

# Бабруйская арганізацыя ахвяр палітычных рэпрэсій

*У музей, бяда сабрана дзе людская,*
*Зайдзі з журбою, чэсны чалавек,*
*Няхай гадзіна гэтая ліхая*
*Не прыйдзе зноў, і знікне хай навек!*

З Ганнай Бакач, старшынёй Бабруйскай арганізацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, сустрэліся мы на міжнароднай канферэнцыі „Жанчына. Планета. Будучыня". Гэта вельмі яркая ў паводзінах жанчына сталага ўзросту, прасталінейная, што не заўсёды падабаецца тым, якія хацелі б бачыць на месцы такое асобы ціхмяную ветэранку, прыгнечаную жыццём.

*Вспомним всех поименно,*
*Сердцем вспомним своим,*
*Это нужно не мёртвым!*
*Это нужно живым!*

Гэта надрукавана на запрашэнні на юбілей арганізацыі, які праводзіцца 17 ліпеня г.г. у Бабруйску. Бабруйская арганізацыя ахвяр палітычных рэпрэсій была створана ў 1989 г. Гэта першае аб'яднанне такога накірунку не толькі ў Беларусі, але і ў былым Савецкім Саюзе. Яно з'яўляецца няўрадавай, праваабарончай, некамерцыйнай арганізацыяй. Мае свой статут, карыстаецца правам юрыдычнай асобы. У яе склад уваходзяць: самі рэпрэсаваныя, якія прайшлі пекла ГУЛАГа, удовы расстраляных і закатаваных, дзеці „ворагаў народа", якія нават не ведаюць месца пахавання сваіх бацькоў. Яна аб'ядноўвае тры арганізацыі: Ленінскую, Першамайскую і Бабруйскую раённую. Зараз у ёй налічваецца каля 2000 чалавек. Пры дапамозе арганізацыі сотні людзей атрымалі даведкі аб рэабілітацыі, дакументы і фотаздымкі з архіваў КДБ, кампенсацыю за маёмасць, пасведчанні аб смерці і апошніх днях жыцця. З жніўня 1996 г. па жнівень 1998 г. выдаваўся незалежны бюлетэнь „Інформ-Цэнтр", адзінае выданне ў РБ па праблемах палітрэпрэсаваных.

Пры арганізацыі створана бібліятэка прававой літаратуры, архіў, спісы расстраляных на дзесяць тысяч чалавек, сабраны гістарычны матэрыял з успамінаў ахвяр для кнігі „Памяць". Зняты чатыры відэафільмы аб жыцці і дзейнасці арганізацыі. Было праведзена 7 вечароў Памяці, 9 мітынгаў-рэквіемаў, 12 круглых сталоў па правах чалавека. У лістападзе мінулага года адкрыты клуб „Сустрэч, Памяці, Болю..." Ля помніка ахвярам палітычных рэпрэсій на плошчы Перамогі закладзены сквер Памяці. Кожны год праводзяцца дабрачынныя акцыі „З рук у рукі" па зборы рэчаў збяднелым людзям. У 1997 г. на прыёме пабывала 3842 чалавекі, у 1998 г. — 3917 чалавек, у першай палове 1999 г. — 1280 чалавек.

Галоўнымі мэтамі арганізацыі з'яўляюцца: аказанне прававой, сацыяльна-бытавой і іншай дапамогі, садзейнне поўнай і галоснай рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій, аднаўленне гістарычнай праўды аб ахвярах палітычных рэпрэсій, вызначэнне месцаў пахавання, збудаванне помнікаў, стварэнне кніг Памяці, адкрыццё Рэспубліканскага няўрадавага інфармацыйнага Цэнтра па аказанні прававой дапамогі грамадзянам РБ, пацярпеўшым ад палітычных рэпрэсій.

29 красавіка 1995 г. пры арганізацыі адкрыты першы ў былым Савецкім Саюзе Музей памяці ахвяр палітычных рэпрэсій. Адно з цэнтральных месц музея займае страшэнная сваёй нагляднасцю карта ГУЛАГа, на якой пазначана звыш пяцьсот аб'ектаў — лагераў і лагерных пунктаў. Некалькі насценных стэндаў з фотаздымкамі расказваюць аб замардаваных ахвярах палітычных рэпрэсій. Частка экспазіцыі аддадзена пад дакументальныя матэрыялы са сталінскага перыяду: у вітрынах прадстаўлены розныя пасведчанні, ваенныя білеты (на адным з іх засталіся сляды крыві рэпрэсаванага), выпіскі з пастанаўленняў судовых установ і камісій па рэабілітацыі, выразкі з газет, кнігі, у якіх змешчана інфармацыя аб рэпрэсіях, цудам захаваныя асабістыя рэчы. Шэраг матэрыялаў прысвечаных мерапрыемствам, якія праводзіла арганізацыя ў памяць аб бязвінна забітых і закатаваных у турмах і лагерах. Цяпер тут можна атрымаць дакладныя ўяўленні аб сапраўдных маштабах сталінскіх рэпрэсій. У бліжэйшы час плануецца расшырэнне экспазіцыі музея. Дзверы музея адчынены для ўсіх. Яго наведваюць школьнікі, студэнты, госці горада, сем'і членаў арганізацыі. Да сёння наведала яго больш за 9 тысяч чалавек.

У наступным нумары Ганна Бакач раскажа, як Госпад аддзячыў пану Старавойтаву за прыніжэнне маці „ворагаў народа".

**Міра Лукша**

P.S. Адрас арганізацыі:
**Бабруйская арганізацыя ахвяр палітычных рэпрэсій**
**Беларусь, 213826, г. БАБРУЙСК,**
**вул. Чангарскага д. 81/25, кв. 2.**

<u>Жыхары Аўгустова ўспамінаюць Яўгена АНІСЬКУ</u>

# Выйшаў на простую дарогу



*Яўген Аніська (злева) на нарадзе ў ГП БГКТ — першая палова 70-х гадоў.*
Фота з архіва „Нівы"

— Быў вялікім беларусам, поўнасцю адданым справе. І фактычна — быў католікам! Але мы, вучні з Аўгустова, нават не ведалі, што ён католік. Бо ён лічыў нас *сваімі* і выхоўваў у нашым народным духу, — успамінае Яўгена Аніську ягоны вучань Юры Манаховіч з Аўгустова.

Юры Манаховіч запамятаў Яўгена Аніську як суровага настаўніка.

— Важнасці і прынцыповасці дабаўлялі яму настаўленыя вусы — быў патрабавальным настаўнікам. Часам і пакараць умеў. Меў такую лінейку, якой *у лапу* даставалася. Але ўсё гэта ў карысць нам выйшла, — абумоўліваецца Юры Манаховіч.

**Раней ведалі толькі шашкі**

— Колькі мы ад яго навучыліся, колькі свету спазналі! Ён жа зацікавіў нас фотааматарствам, кіраваў школьным беларускім хорам, у 60-я гады вёў ансамбль мандаліністаў. Адкуль ён дастаў тыя мандаліны?! Заўсёды рыхтаваў нас да беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў. Памятаю, колькі было маёй радасці, калі за добрае выступленне я атрымаў ад БГКТ гадзіннік! А згадаць гэты яго шахматны гурток? Раней у Аўгустове ведалі толькі шашкі. Пан Аніська так нас падшколіў, што ездзілі мы на спаборніцтвы па цэлым рэгіёне. І заўсёды заваёўвалі прыстойныя месцы.

**Дзякуючы яму я быў „кімсьці"**

— Нядаўна пабываў я на Цэнтральных спаборніцтвах шахматыстаў-аматараў у Познані і на 56 удзельнікаў заваяваў 26 месца. А ў спаборніцтве дружын на 66 камандаў — 3 месца ў Польшчы, — расказвае Мікола Крупіцкі, жыхар Бельска-Падляшскага, ураджэнец Аўгустова.



*Мікола Крупіцкі — вучань Я. Аніські.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Пан Аніська прывіў мне любоў да шахматаў на ўсё жыццё. Па сённяшні дзень ігру ў шахматы лічу чыстым аматарствам, — кажа выдатны шахматыст.

— Часта думаю пра пана Аніську. Дзякуючы гэтаму чалавеку я быў *кімсьці*. Памятаю свой першы вялікі поспех, калі паехаў у Бельск і абыграў там вядомага юрыста. Усе смяяліся, віншавалі мяне, тады 16-гадовага юнака! — Мікола Крупіцкі дужа Польшчы пабачыў праз тыя шахматы. Яшчэ ў пачатковай школе іхняя каманда прыняла ўдзел у турніры за „Залатую вежу". — І мы з панам Аніськам ездзілі па многіх гарадах краіны.

**Цяжкі кавалак хлеба**

Пасля заканчэння школы Мікола Крупіцкі далей сябраваў са сваім настаўнікам. Перапісваўся, калі той паехаў жыць да сястры ў Шчацінак. Усе лісты былі на беларускай мове. Толькі часам цяжка было іх расчытаць, бо пан Аніська меў неразборлівы почырк.

— Пакінуў мне сваю бібліятэку, 100-200 кніжак і часопісаў на тэму шахматаў. І заўсёды, калі са Шчацінка вяртаўся ў Аўгустова, наведваў мяне. Хоць на пяць хвілін зойдзе, хоць прывітацца, пабачыцца.

А як адносіліся да яго вучні?

— Па-рознаму бывала, — прыгадвае школьныя гады Мікола Крупіцкі. — Напэўна цяжка яму было нас вучыць. Бо і сам меў праблемы ды хворыя нервы. А школьнікі, бывала, яшчэ спецыяльна дражнілі яго, мяшалі на ўроках, прыдумвалі нясмачныя жарты, кпілі.

Цяжка даваўся кавалак хлеба Яўгену Аніську ў Аўгустове.

**Я трывожна задумаўся**

— Найперш папрасіў у мяне дакументы. Паглядзеў, паглядзеў ды кажа: „Нічога ўжо з беларусаў не будзе. Ужо ўсё! Усе вымруць!" — „А чаму вы так гаворыце", — жахнуўся Янка Мордань, тады, у 70-я гады, малады дзеяч бельскага гуртка БГКТ. — „Чаму? У вас нават дакументы на польскай мове!"

— Так выглядала мая першая сустрэча з Яўгенам Аніськам, — успамінае Ян Мордань з Гацькоў. — Гэты чалавек хварэў душою, што мы, беларусы, такія пустыя людзі, што забываем сваё цудоўнае багацце — мову, свае традыцыі, трацім шчырасць душы, што пачынаем служыць не сабе, а іншым. І я, выйшаўшы тады ад пана Аніські, трывожна задумаўся.

**Не ўспрымаў сацыялізму**

— Мы заводзілі вялікую палеміку. Ён быў упарты і я быў упарты. Я працаваў тады ў павятовай радзе, быў актывістам, а ён меў іншыя погляды. Моцна не ўспрымаў сацыялізму, — успамінае Яўгена Аніську яго сябар Барыс Манаховіч з Аўгустова, год нараджэння 1924. — Моцна ваяваў на БССР. Казаў — там рэжым, расійская акупацыя. Расказваў, што ягонага сябру за беларускую дзейнасць саветы на 10 гадоў у Сібір вывезлі. І сам ледзь уцалеў ад ссылкі, ратаваўся рэпатрыяцыяй у Польшчу. Хвалявала яго, што БГКТ пад наглядам партыі дзейнічала. „Калі я пачынаю гаварыць пра беларускія праблемы на бэгэкатоўскіх з'ездах, мне адмаўляюць голасу," — скардзіўся. Бывала, яго на з'езд БГКТ не ўпускалі. „То я яшчэ раз паеду," — ён на тое.

І сапраўды, ехаў, хаця ведаў, як могуць яго там сустрэць. Крытыкаваў наш бельскі беларускі ліцэй: „Там, — гаварыў ён, — адно беларускія надпісы на дзвярах. Усярэдзіне нічога беларускага няма. Ды яшчэ людзі ганарацца, што беларускі ліцэй закончылі!"

— Мы заўзята спрачаліся, заводзілі бурныя палемікі на тэму палітыкі, але не крыўдавалі на сябе. Ён быў харошым чалавекам, вельмі харошым, — адзначае Барыс Манаховіч. — Вельмі культурным.

**Быў ахвярным чалавекам**

— Зразу з галавою акунуўся ў жыццё школы, — прыгадвае Яўгена Аніську Марыя Манаховіч, кіраўнік Пачатковай школы ў Аўгустове ў 50-я гады. — Меў неўтаймаваны прыплыў энергіі. Хацеў зразу зрабіць нешта для нашых дзяцей і школы. Вучыў спяваць, іграць на мандаліне, вёў пазаўрочныя заняткі — усё грамадскім пачынам. Быў ахвярным чалавекам. Хаця быў католікам — ніхто таго не адчуваў. Усе бачылі яго як шчырага, адданага справе беларуса. Дзе б я яго не сустрэла — ці на сходзе нейкім, ці ў кампаніі — ён заўсёды гаварыў на беларускай мове. Нават у Беластоку па-беларуску размаўляў! — адзначае Марыя Манаховіч.

**Лічыў яе сваёй жонкай**

Ядвіга Бачкоўская прыехала ў Аўгустова ў пачатку 60-х гадоў. У яе была дачка Ганна (яна працавала ў школьнай бібліятэцы), а ў дачкі быў яшчэ сын Збышак, які зараз пражывае ў Бельску-Падляшскім.

— Пані Бачкоўская была вельмі добрым педагогам, — кажа Мікалай Крупіцкі. — Навучала яна польскай мове. Адразу, калі яна да нас прыехала, школа наша папрыгажэла. Ля будынка з'явіліся клумбы з кветкамі.

Ядвіга Бачкоўская жыла разам з Яўгенам Аніськам.

— Ён лічыў яе сваёй жонкай, — кажа Барыс Манаховіч. — У яе было прозвішча па першым мужу, афіцэру, які прабываў на эміграцыі ў Англіі. Ядвіга Бачкоўская доўгі час працавала дырэктарам школы ў Аўгустове.

**Выйшаў на простую дарогу**

Барыс Манаховіч успамінае апошнюю сустрэчу з Яўгенам Аніськам.

— У 1994 годзе ён прыехаў са Шчацінка ў Беласток, дзе адбываўся з'езд іегавістаў.

— Я ўжо паконччыў з каталіцызмам, — сказаў. — Зараз у мяне другая дарога да вечнага жыцця.

У Аўгустове наведаў знаёмых, старэч, якімі займаўся будучы грамадскім апекуном. Нам прывёў свой зялёны веласіпед „Урал" на памятку. І цяпер, калі гляджу на жыццё Яўгена Аніські, дык бачу яго рацыю, — канстатуе Барыс Манаховіч.

— Паглядзець сёння на савецкі рэжым, на Беларусь... Яўген Аніська выйшаў на простую дарогу!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Які я шчаслівы...

Дзе б я не падарожнічаў, заўсёды намагаюся падшукаць сабе спадарожнікаў, бо ў кампаніі хутчэй час бяжыць ды і нешта цікавага можна даведацца. Ранні цягнік з Беластока ў Чаромху (у 7.50) не быў надта перапоўнены. Калі я сядаў у Падбеллі, у апошнім вагоне ехала не больш дзесяці-пятнаццаці пасажыраў. Калідор аднак заставлены быў сумкамі. Па іх аб'ёме я зразумеў, што едуць „рускія". Я прысеўся ў калідоры на лаўцы сярод багажу жанчын з-за мяжы.

У Рыгораўцах прыселася да мяне знаёмая кандуктарка. У нас завязалася сяброўская гутарка.

— Пэўна чулі, што нашых дыспетчараў разагналі? — загаварыла. — Адзін старшы застаўся.

— А што з іншымі?

— Адна ў Беласток даязджае. Толькі Тамарцы дазволілі дачакаць канца. Незадоўга на датэрміновую пенсію адыходзіць, — у голасе немаладой ужо жанчыны чулася нотка няпэўнага заўтра.

— Маладым не так страшна перажываць увальненне, — гаварыла кандуктарка. — Яны змогуць знайсці нейкую працу. А мне як быць? Больш дваццаці гадоў на чыгунцы перапрацавала. Да пенсіі далёка. І што рабіць, чалавеча Божы? Хоць галавою ў сценку таўчы... Яшчэ нядаўна ездзілі мы ў Бельск-Падляшскі і Белавежу. Зараз і тыя маршруты адмянілі. Для кандуктараў няма працы. Большасць поездаў вядуць адны кіраўнікі. Вось да чаго дажыліся ў дэмакратыі...

Калі мы так разгаварыліся, адна з „рускіх" падышла да сумак і пачала іх перастаўляць, каб зрабіць доступ да лаўкі, на якой я сядзеў, даючы гэтым магчымасць кандуктарцы прысесціся побач мяне. Калі ўзялася за вялікую сумку, ледзь-ледзь скранула яе з месца.

— Вы пэўна жалеза возіце, — жартуючы, кідаю ў бок пажылой жанчыны.

— Мукі крыху прыхвацілі...

— А ў вас яе няма? — пытаю.

— Ваша „качэственна" лепшая. Такая беленькая...

У час далейшай гаворкі з жанчынай я даведаўся, што яна родам з Краснага Сяла, што на Бельшчыне. У 1945 годзе з бацькамі выехала ў Беларусь. Зараз жыве яна ў Пінску.

— Я прыязджаю на бацькаўшчыну, бо тут брат хворы. І ў мяне мужык памёр. Прыходзіцца памагаць адзін аднаму.

У размове хутка праляцеў час. Хоць цягнік наш валокся чарапашым ходам (30 км у гадзіну), мінулі мы Кляшчэлі і набліжаліся да Чаромхі.

Пакінулі мяне аднаго спадарожніцы. Кандуктарка пайшла заняцца сваімі службовымі абавязкамі, а „рускія" жанчыны пачалі рыхтаваць багаж для выгрузкі ў Чаромсе.

— Які я шчаслівы, — думаю, уязджаючы на перон. — Мне, пенсіянеру, увальненне не пагражае, з сумкамі не трэба цягацца. І ў сваю хату вяртаюся.

Дзякуй і за гэта Усявышняму!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Абяцанка — цацанка

У студзені г.г. пачалі ўводзіць рэформу аховы здароўя. На Беластоцкім радыё дзяжурылі спецыялісты па рэформе. Мне ўдалося дазваніцца да іх і задаць ім некалькі пытанняў. Цікавіла мяне, ці я магу перайсці да лекара ў іншы раён, бо ў вясковым асяродку аховы здароўя ў Трасцянцы лекар прыязджае тады, калі захоча. Спецыялісты адказалі мне, што магу выбраць сабе лекара, палажыцца ў бальніцу па сваім выбары, ды выклікаць хуткую дапамогу з таго раёна, да якога запішуся.

Пачалі людзі адыходзіць з вясковага асяродка аховы здароўя ў Трасцянцы хто куды: адны ў Беласток, другія ў Заблудаў, а іншыя ў Нарву. У Заблудаве нас прынялі ветліва і здавалася, што ўсё будзе вельмі добра.

Калі захварэў мой сусед Мікалай Ігнацюк, 26 чэрвеня я пазваніў на кватэру да лекара ў Заблудаў. Лекар, які якраз быў у водпуску, параіў званіць на хуткую дапамогу ў Беласток. Дыспетчарка, якая прыняла тэлефон, адказала, што гэта не іх раён і яны туды не едуць, ды падказала званіць у Гайнаўку, бо там наш раён. Тут варта прыгадаць, што калі хуткая дапамога едзе з Беластока да хворага ў вёску Гозна ў Міхалоўскай гміне, то праязджае цераз нашу вёску.

Праўда, у Гайнаўцы прыгожая новая бальніца і лекары добрыя. Аднак нам туды не зручна. Калі прыйшлося б пераначаваць, то нам няма дзе падзецца, бо ўсе нашы маладыя жывуць у Беластоку, маюць там свае сем'і, кватэры. І наведваць хворага ў бальніцы ім і нам намнога лягчэй у Беластоку, чым у Гайнаўцы.

Вось што атрымалася з рэформай аховы здароўя! На пачатку ўсё абяцалі, а цяпер пра ўсё пазабывалі, а ты, хворы, памірай.

Калі мая жонка ляжала ў бальніцы ў Гайнаўцы, дзеці прыязджалі з Беластока кожную нядзелю, але калі б яна ляжала ў Беластоку, дзеці яе наведвалі б кожны дзень.

Як відаць ахова здароўя не вельмі клапаціцца пра хворых.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Шаноўны Астроне! Ты калісьці пісаў, што калі сніцца сонца, добрае надвор'е, дык гэта прадвяшчае добры ход спраў. А мне прыснілася такое сонца, што не дай Божа! І я пачынаю сумнявацца, ці заўсёды святло абазначае добрае.

Сніцца мне, быццам я знаходжуся ў пустыні. Сонца такое незвычайнае! Яно пячэ і асляпляе мяне страшэнным бляскам, а ногі мае грузнуць у сухім, пякучым пяску. Хачу піць, вусны мае перасохлі, але вады няма нідзе і ведаю, што яе не будзе, пакуль я не дайду да аазіса. Толькі там я змагу напіцца...

І раптам... бачу караван вярблюдаў. Ну, думаю, зараз будзе ратунак, хаця вады нап'юся. Але вады мне ніхто не дае. Адзін араб сказаў, што мае свабодная вярблюда. Запрапанаваў, каб я села на яго і паехала разам з імі. Я падумала, што напэўна варта. Вярблюд лёг на зямлю, і я на яго даволі лёгка села. А пасля ён, быццам страла, падняўся ўвысь. Я перапужалася, глянула на таго араба, просячы позіркам у яго дапамогі, а ён... як ні пагоніць нейкім дубцом таго вярблюда, а вярблюд як не памчыцца наперад! Мне страшна. Я азіраюся назад і бачу на твары таго араба страшную, ядавітую ўхмылку... Адкажы, Астроне, што будзе!

**Ёля**

Ёля! Твой сон гаворыць, што ў цябе ёсць нейкія цяжкасці. Табе горача, абліваешся потам, ногі грузнуць у сухім пяску, хочацца піць.

Табе здаецца, што ратункам для цябе будзе той караван, які ты ўбачыла на сваёй дарозе. Прынамсі мо людзі дадуць табе напіцца. Але той уяўны ратунак акажацца толькі жыццёвай фатамарганай. Сама бачыш, што нібы падобраму той араб даў табе таго вярблюда, а пасля пагнаў яго, мо спецыяльна, каб ты зваліласся. Вакол цябе шмат фальшу.

**Астрон**

# Чаромхаўскія навіны

Закончыліся рамонт і разбудова чаромхаўскай Гмінная управы. Інвестыцыя абышлася ў 1 300 тысяч злотых. У канцы чэрвеня г.г. гмінныя чыноўнікі сталі працаваць у даволі прыемных канторах.

— Не маем мармуровых падлог ці сцен размаляваных фрэскамі. Звычайныя людскія ўмовы працы, — гаварылі мне ў размове кіраўнікі мясцовага самаўрада. — Самае аднак асноўнае, што не гняздзімся ў цеснаце, як было раней!

Не адлеглае гэта мінулае. Памятаю, як неадноЙчы прыходзілася афармляць справы ў гміне стоячы, бо не было дзе паставіць крэсла наведвальніку. Зараз кожны кіраўнік сектара атрымаў свой кабінет. Хоць невялікі, аднак асобны. І чыноўнікі працуюць па двое.

У час мадэрнізацыі будынка атрымаліся два дадатковыя памяшканні. Адно з іх гмінная ўправа здае ў арэнду Гайнаўскаму аддзяленню ПКО. Тут пачне працаваць праз некалькі месяцаў філіял гэтай установы, у якой знойдзе сабе працу трое шчасліўцаў. На некалькі дзесяткаў прашэнняў тры штаты — гэта, быццам бы, выйграць у латарэю!

І яшчэ адна навінка ў Чаромхаўскай гміне. З 1 чэрвеня г.г. пачало працаваць аддзяленне камунальнай гаспадаркі. Чаромха — першая ў краіне гміна, якая стварыла ў сябе такі сектар.

Конкурс на пасаду кіраўніка камунальнай гаспадаркі выйграў Анатоль Анішчук, былы начальнік прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу ў Чаромсе.

Трэба лічыць, што гэтая ластаўка прадвяшчае пасёлку гарадскія правы. Ці гэта будзе карысным грамадству, пакажа час!

**Уладзімір Сідарук**

# Пажар у Орлі



23 чэрвеня, у сераду, пасля 15 гадзіны на вуліцы Свярчэўскага ў Орлі ўспыхнуў пажар у складзе вытворчагандлёвай фірмы „Соляр", а неўзабаве агонь перакінуўся на суседнія склады фірмы „Орляс". У складах абедзвюх фірм знаходзіліся вырабы з лазы, бярозавага хворасту, выкананыя мясцовымі і навакольнымі ўмельцамі. Ужо некалькі гадоў іх вырабы экспартуюцца ў заходнюю Еўропу.

Пажар пачаўся ўнутры будынка і ўспыхнуў у сушыльні-парыльцы. Стаяла тады пахмурнае ветранае надвор'е і калі б не пажарныя часці з-па-за Орлі, агонь распаўсюдзіўся б на будынкі на Аградовай і Бельскай вуліцах. Арлянскія пажарнікі прыехалі пасля паўгадзіны ад прыкмячэння агню. На дадатак на месцы пажару ў машыне заблакіравалася каробка перадач. Арлянскім пажарнікам прыйшлі з дапамогай добраахвотнікі з Рыгораўцаў, якія паставілі сцяну вады і абаранілі жылыя будынкі.

Тушыць пажар прыехалі пяць каманд: з Орлі, Рыгораўцаў, Маліннік, Рудутаў і Бельска-Падляшскага. Ад пажару пацярпела частка складоў з таварам абедзвюх фірм. Выратаваўся галоўны склад фірмы „Орляс" і офіс.

Будынкі названых фірм калісьці належалі ГСу. Восенню мінулага года пачаўся іх капітальны рамонт. Жыхары Орлі мелі магчымасць пабачыць, як прадпрымальныя людзі даводзяць развалiны да стану ўжывальнасці.

Падчас пажару можна наглядаць за



аднолй псіхалагічнай з'явай — натоўп людзей прыходзіць не памагаць у тушэнні агню ці ратаванні маёмасці, але каб паглядзець на агонь, пракаментаваць здарэнне. У Орлі пажар прыцягнуў увагу каля ста асоб, мясцовых і жыхароў суседніх вёсак. Разявакі стаялі і прыглядаліся, як пажарнікі, падвяргаючы свае здароўе і жыццё небяспецы, змагаліся з агнём, як хваляваліся шакіраваныя ўладальнікі. Паводзілі яны сябе як балельшчыкі на матчы або публіка на нейкім спектаклі.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

## Зараз у Гайнаўцы

Горад Гайнаўка займае плошчу ў 2 130 гектараў. Налічвае 24 180 жыхароў, у тым ліку 11 615 мужчын і 12 565 жанчын. Найбольшымі прадпрыемствамі з'яўляюцца: „Фурнэль" (цяпер працуе ў ім 940 чалавек), „Гамэх" (295), Малочны кааператыў (220), „Грыфсканд" (185), ПСС „Сполэм" (170), Гмінная спулдзельня (120) і Надлясніцтва Гайнаўка (100). Зараз у гэтым пушчанскім горадзе дзейнічае 8 100 тэлефонаў.

**(гай)**




**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Міраговіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

**Фрашкі пра нашых**

## *Узнагарода*

Беднай Лёньцы што па медалях,
Калі ўжо на Аўраамавых палях!
Хапіла ёй, як кожнай бабе, тут пакут,
Усё ж роднай песняй весяліла родны кут.
На юбілеі калектыву хто чым мог
Хоць мілым словам, хоць дарункам ёй памог.
„Нашто падаркі ёй, не возьме ж у зямлю, —
Сказала Сваццdevя. — Лепш сабе вазьму!"

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Пра грошы

У Рурскім басейне ў Германіі вадзіцель трамвая зайшоў у туалет, а ў той час яго трамвай разам з пасажырамі праехаў тры кіламетры. Амерыканская блюзавая пявіца Марла Глен у вакзальным туалеце ў швейцарскім горадзе Люцэрне не магла расплаціцца *пісуардэсе*, бо не мела дробных грошай і адказная за той важны офіс працаўніца пазвала паліцыю, якая выдатнай амерыканскай госці надзела наручнікі за дапушчаную правіну. У арышце выявілася з пашпарта, што да 1993 года пявіца была... мужчынам. Я хацела, заявіла яна, каб мяне лічылі чалавекам. Вось якая баба! А ў ірландскім Дубліне малады чалавек стаяў у чарзе да банкамата, таксама відаць за дробнымі грашыма, але не змог дачакацца і тратуар прэстыжнай сталічнай вуліцы адкрыта памачыў мачою. (У слоўніках няма, як гэтае дзеянне назваць правільна адным словам, таму, каб не выклікаць скандалу і не быць адзетым у наручнікі, не пакарыстаўся я простанародным адным і прымяніў два словы.) Суд прыгаварыў злачынца на працягу чатырох гадзін насіць па месцы ліхадзейства шыльду з надпісам прабачальнага зместу.

Чарга да банкамата мае цяпер важкія асновы, бо маючы грошы, можна няблага зарабіць. Вось, па-суседску, лонданскія букмахеры прымаюць заклады на выпадак прадказанага Настрадамусам канца свету. Калі нехта пойдзе ў заклад, што неўзабаве прыляцяць да нас у лятучай талерцы маленькія зялёныя чалавечкі і возьмуць уладу на зямлі, і гэта збудзецца, тады такі закладчык за аднаго закладзенага фунта атрымае іх аж пяць тысяч. Не дзіва тады, што перад банкаматамі людзі засі$аюцца... У ЗША сума ставак у азартных гульнях дасцігла шэсцьдзесят тры мільярды долараў, а некаторыя гульцы вырашылі ўжо лячыцца ад гэтай азартнай немачы і пятнаццаць мільёнаў іх запісаліся ў групы ананімных ігракоў.

Уявіце, даражэнькія, сабе: заміж ісці на базар, каб там купіць адзін літр „Полькі" або „Пшанічнай" за дваццаць злотаў, вы едзеце ў Лондан і там закладаеце гэтыя грошы; не забудзьце забраць з сабою крыху дробнай манеты, каб там вам не надзелі наручнікаў. Калі, праз нейкі месяц, зямлёю заўладараць зялёненькія, вы зноў едзеце ў Лондан і забіраеце фунты, якіх вартасць роўная мільярду старых злотаў. За іх на базары будзе пяць тысяч літраў весялухі — пяць тонаў — і тады можна пагуляць! Фунты тыя атрымаеце не ў букмахера, а ў банку. Толькі будучы ў банку не пералякайцеся, бо там як у пекле — лонданскія банкавікі скрыгічуць зубамі. Тамашнія стаматолагі тлумачаць гэты факт павышаным стрэсам, ад якога бедныя грашаводы ўвесь час варушаць сківіцамі.

Але ёсць на свеце шчаслівыя людзі, якія гуляюць яшчэ весялей за нас. На поўначы Італіі зладзеі пад'ехалі цыстэрнамі пад гарэлачны завод і трыстаметровым пажарніцкім шлангам высмакталі адтуль семдзесят пяць тысяч літраў вясёленькай. Уласнік завода не толькі страціў каштоўны напой вартасцю аднаго мільёна долараў, але яшчэ быў вымушаны заплаціць за яго падатак у італьянскую казну. Адзін плача, другі скача...

У Марселі зладзеі ўкралі верталётам з турмы хіба таксама зладзеяў, хаця ў турмах сядзяць і іншы народ. На поўначы Нарвегіі руская жанчына прасядзела два тыдні ў тамашняй турме за зводніцтва. Калі яе выпусцілі, заплацілі ёй тысячу кронаў кампенсацыі, што ў пераліку на ейную валюту роўна палове гадавой зарплаты. На развітанне яна заявіла: *Будто отдохнула в отеле.*

У Беларусі да дзесяці гадоў турмы прысуджаны 43-гадовы Валерый Буяк, стваральнік найбольшай фінансавай піраміды ў рэспубліцы, які абяцаў укладчыкам агромныя працэнты, а для большага ажыятажу аб'явіў сябе японскім свяшчэннікам.

У Чачні не саджаюць у турму: там захопнікаў заложнікаў голымі і павязанымі канатамі перагналі перад шматлюднай публікай па вуліцах Грознага. Амаль як у Дубліне.

**Адам МАНЬЯК**

## *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 2. старажытнафінікійскі бог сонца, сімвал ненасытнасці, 4. Антоній, заснавальнік тэкстыльнай прамысловасці ў Гродне (1733-1785), 6. грашовая адзінка ў Швейцарыі, 7. грошы, якія выдаюцца ў лік будучых плацяжоў, 9. марка савецкага грузавіка, 11. Іван, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, якому прыпісваецца аўтарства прамовы ў Сойме ў 1589 годзе, 12. дзяржава Леаніда Кучмы, 13. уліваецца злева ў Дунай каля Рэгенсбурга, 15. сябар, 17. порт у Албаніі, 18. Уладзіслаў, польскі і беларускі паэт, сябра Антона Глінскага (1823-1862), 19. выраблення мяккая ворсавая скура з аксамітнай паверхняй.

**Вертыкальна:** 1. Антон, беларускі пісьменнік, сябар Уладзіслава Сыракомлі (1817-1866), 2. адзін рух пэндзля пры накладанні фарбы, 3. конская морда, 4. электрычная транспартная машына, якая ездзіць па бязрэйкавай дарозе, 5. рэлігійнае пакланенне звярам, 6. адно калíва расады, 8. трыганаметрычная функцыя, 9. Тамаш, польскі паэт, сябра Адама Міцкевіча (1796-1855), 10. кавалак кары ліпы, 14. горад на Сіцыліі між Палерма і Трапані, 16. адрэзаны кусок тканіны, 17. штучны насып для засцярогі ад паводкі.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 23 нумара**

**Гарызантальна:** твар, аазіс, ахапак, хлеб, парог, Ашкерц, Камчатка, шаман, надомнік, бактрыян, раджа, інтрыган, карсар, Фуэга, Афон, Багрым, жыллё, ачаг.

**Вертыкальна:** пашана, сірока, велічыня, Рабат, ражка, Капра, гангрэна, шклограф, шуба, мука, анод, ікра, „Антыгона", Анучын, жыгала, Гаваі, іскра, трама.

Рашэнне: **Францішак Аляхновіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска.

## *Кароткі курс параноі*

Прэтэндэнты на беспамылковую вечнасць: бізун і пернік.

*

Татальны прэсінг стабілізаваных азадкаў выціснуў у крэсла дух нацыі.

*

Каб увайсці ў вялікія сыны, даказваў, што ён з пігмеяў.

*

Пастыр народа: выкапень з эпохі стаднага развіцця.

*

Адвеку спіць: тутэйшы народ.

*

Адвечна стаіць на раздарожжы: беларус.

*

Маньяк у эйфарыі — чакай паклёпу.

*

Ашалом на трыбуне — чакай бяды.

*

Зацісnуты ў сябе, маўкліва сядзеў сіднем. І выседзеў гемарой.

*

Сціплы чалавек: шэры, без прэтэнзій на яркасць.

*

Рака ўлетку дыхала ледзяным холадам: убачыла меліяратараў.

*

Выклікаў яе, каб душу адвесці, а абранку цікавілі цялесныя з'явы.

**Сідар МАКАЦЁР**

## *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

Бог са святым Пятром праводзяць агляд маральнасці на зямлі. Апынуліся над Польшчаю.

— Што абазначае той агеньчык з правага боку? — пытае Найвышэйшы.

— Гэта адзін муж здраджвае сваёй жонцы.

— А агеньчык з левага боку?

— Гэта нейкая жонка здраджвае свайму мужу.

— А тое зарыва пасярэдзіне?

— Гэта санаторыя Цехацінак.

* * *

— Хто гэта такі фінансавы геній?

— Гэта такі чалавек, які ўмее зарабляць грошы хутчэй, чым ягоная сям'я здолее іх расходаваць.

* * *

Гутарка пры гарэлцы:

— Мушу табе выявіць тры тайны: папершае — твая жонка табе здраджвае, па-другое — здраджвае са мною, па-трэцяе — што ты на гэта скажаш?

— А я табе таксама выяўлю тры тайны: па-першае — ужо ад года яна не з'яўляецца маёю жонкай, па-другое — яна хворая сіфілісам, па-трэцяе — што ты скажаш на гэта?